9 снежня 2016 | № 47 (512)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Колькі гадоў трэба прэзідэнту?

стар. 9









# Найлепшы падарунак для Беларусі

## СССР перастаў існаваць 25 гадоў таму, а хтосьці дагэтуль шкадуе



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

Роўна 25 гадоў таму ў гэтыя ж снежаньскія дні скончыўся СССР. З аднаго боку — заканамерна, з іншага — усё адно нечакана.

Можна шмат разважаць, ці было гэта спантанным рашэннем трох кіраўнікоў, ці заканамерным працэсам, да якога ішлі ўсе краіны. Адно можна сказаць дакладна: 25 гадоў таму Беларусь атрымала калядны падарунак, які пакуль так і не здолела напоўніцу скарыстацца.

### Трохі ўспамінаў

У гэтыя дні кожны, мусіць, прыгадвае, як гэта было для яго асабіста.

Для мяне раніца 8 снежня 1991 года запомнілася найперш жудасным жаданнем спаць. Але заняткі ва ўніверсітэце ніхто не адмяняў, а першакурснікам у той час прагульваць было не дазволена. Адчайна пазяхаючы, скрозь пахмурную раніцу паехаў ва ўніверсітэт — заняткі ў нас пачыналіся ў 8.30, крыху пазней, чым ва ўсім БДУ, наш вучэбны корпус месціўся за горадам.

Наступнае я, аднак, запомніў вельмі выразна — такое заўсёды бывае ў па-сапраўднаму пераломныя дні. Першай парай ішоў семінар па «гісторыі айчыны» — гэта ў той час быў, мусіць, самы палітызаваны прадмет. Я разлічваў на першай пары банальна паспаць. Але, зайшоўшы ў аўдыторыю пачуў:

— Дзяніс, ты ведаеш, стары СССР разбурылі, а замест яго стварылі новы. У ім толькі Расія, Беларусь і Украіна. А сталіца зараз у Мінску.

— Што за дурасці з самай раніцы?

— Праўду табе кажу!

Выкладчык і іншыя студэнты згодна заківалі. Зрэшты, у той дзень мы гэтую тэму неяк нават і не абмяркоўвалі. Поўнае ж усведамленне таго, што адбылося, прыйшло нашмат пазней, 25 снежня ў 19 гадзін 45 хвілін, калі ў прамым тэлевізійным эфіры над Крамлём быў спушчаны сцяг СССР. Што стала, пэўна, самым лепшым калядным падарункам у гісторыі Беларусі.

Сёння гэта ўспамінаецца з усмешкай, але тады мы сапраўды ўспрымалі ўсё менавіта так: СНД як новы СССР, а Мінск — яго сталіца. Але не магу сказаць, што гэта выклікала нейкі жывы водгук у душах людзей. Пэўна таму, што на фоне стрэсу ад падзей з 19 па 25 жніўня тое, што рабілася ў снежні, ужо не падавалася настолькі значным. Ну, Шушкевіч, Ельцын і Краўчук... Ну, дамовіліся пра нешта паміж сабой і не дамовіліся з Гарбачовым... Ад СССР была ўжо толькі адна стомленасць, таму спуск чырвонага сцяга нават не выклікаў нейкіх празмерных эмоцый.

Як і здабыццё незалежнасці. З аднаго боку, мы і так ужо адчувалі сябе грамадзянамі незалежнай дзяржавы. З іншага боку, ніхто — прынамсі, у маім асяроддзі, — не мог выразна адказаць на пытанне: «І што зараз?». Магу толькі сказаць, што і страху не было — ён увесь застаўся там, у жніўні 1991-га. Была стомленасць і чаканне Новага году.




### Незапланаваная незалежнасць

Праз шмат гадоў, калі я стаў журналістам і неаднаразова сустракаўся, гутарыў са Станіславам Шушкевічам, у яго расповедах пра снежань 1991-га я рэгулярна чуў адно і тое ж: «Мы ехалі ў Віскулі зусім па іншай падставе, у нас і ў думках не было распускаць СССР, ствараць СНД».

**«Мы ехалі ў Віскулі па іншай падставе, у нас і ў думках не было распускаць СССР»**

І на самай справе, давайце паглядзім на храналогію падзей. 14 лістапада 1991-га кіраўнікі сямі з 12-ці саюзных рэспублік (Расія, Беларусь, Казахстан, Кіргізія, Таджыкістан, Туркменія, Узбекістан) і прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў заявілі пра сумесныя планы скласці дамову аб стварэнні ССД — Садружнасці Суверэнных Дзяржаў, якая павінна была прыйсці на змену СССР. Падпісанне новай «саюзнай дамовы» было прызначана на 9 снежня. Чакалі згоды з боку Украіны.

Аднак 1 снежня ва Украіне адбыўся рэферэндум, на якім народ большасцю падтрымаў Акт абвяшчэння незалежнасці Украіны ад 24 жніўня 1991-га. Барыс Ельцын адразу ж зрабіў заяву аб прызнанні незалежнасці Украіны, аб намеры ўсталяваць з ёй дыпламатычныя стасункі і скласці ўсёабдымную двухбаковую дамову.

4 снежня «Незалежная газета» са спасылкай на прэс-сакратара прэзідэнта РСФСР паведаміла, што Барыс Ельцын 6 снежня адпраўляецца ў Мінск.

Працяг на стар. 4 »

# «Пляма на мапе Еўропы»

**Спецыяльны дакладчык ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Міклаш Харасці заявіў, што нядаўнія расстрэлы ў Беларусі яшчэ раз дэманструюць упартае ігнараванне правоў чалавека ў краіне.**

«Я рашуча асуджаю нядаўняе пакаранне смерцю Сяргея Хмялеўскага, Івана Куляша і Генадзя Якавіцкага», — сказаў Міклаш Харасці. «Гэтыя тры расстрэлы яшчэ раз сведчаць пра абуральную непавагу беларускіх уладаў да права на жыццё, а таксама іх упартую адмову ад супрацоўніцтва з міжнароднай сістэмай правоў чалавека».

Эксперт патлумачыў, што справы Хмялеўскага і Якавіцкага знаходзяцца на разглядзе Камітэта па правах чалавека ААН, які надзелены функцыяй кантролю за выкананнем Беларуссю Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай Пакта, а таму абавязаная не спяшацца і адказваць на меркаванні Камітэта.

«Я ўстрывожаны адкрытым выклікам міжнародным працэдурам у галіне правоў чалавека з боку судовага апарата Беларусі. Разам з гэтымі пакараннямі агульная колькасць расстрэлаў вырасла да чатырох з пачатку года», — сказаў дакладчык, узгадваючы справу Сяргея Іванова, які быў пакараны смерцю ў пачатку 2016 года, нягледзячы на тое, што яго справа таксама знаходзілася на разглядзе Камітэта па правах чалавека.

«Гэтыя тры расстрэлы адбыліся ўсяго праз некалькі дзён пасля таго, як на Трэцім камітэце Генеральнай Асамблеі ААН урад устрымаўся ў час галасавання па рэзалюцыі аб глабальным мараторы на смяротнае пакаранне, што многімі краінамі на кантыненце і за яго межамі было расцэнена як перспектыўны крок», — сказаў сп. Харасці.

«Праз некалькі тыдняў, беларускі ўрад будзе таксама выступаць адным з арганізатараў міжнароднага мерапрыемства, якое мае на мэце «вывучэнне» пытання аб адмене смяротнага пакарання», — адзначыў ён. «Некалькі разоў на працягу многіх гадоў улады паўтараюць гэтую спрэчную практыку, у той час як расстрэлы па-ранейшаму працягваюцца».

Беларусь па-ранейшаму застаецца адзінай краінай у Еўропе і Цэнтральнай Азіі, якая прымяняе смяротнае пакаранне, што не дазваляе краіне стаць сябрам Савета Еўропы.

**Паводле spring96.org**

# Што стаіць за зменай кіраўніцтва?

Генадзь КЕСНЕР

**Адміністрацыя кіраўніка Беларусі пазбавілася свайго кіраўніцтва. Ад пасады вызвалены Аляксандр Косінец і ягоны першы намеснік Канстанцін Мартынецкі — абодва з фармулёўкай «пераход на іншае месца працы».**

Пра тое, што азначаюць кадравыя пертурбацыі, разважае палітолаг **Валер Карбалевіч.**

— Відаць, такое рашэнне звязана з незадаволенасцю Лукашэнкі працай кіраўнікоў сваёй адміністрацыі. Гэта простае і банальнае тлумачэнне. А калі казаць пра кіраўнікоў адміністрацыі прэзідэнта, што былі пры Лукашэнку, то Косінец, мусіць, — самы незаўважны сярод іх. Быў яшчэ такі Генадзь Нявыглас, мала заўважны, а астатнія кіраўнікі адміністрацыі ўсё ж былі фігуры важкія, публічныя. Было відавочна, што кіраўнік адміністрацыі — персона значная, гэта другі чалавек пасля Лукашэнкі ў ягонай адміністрацыі. Пра Косінца гэтага не скажаш.

Ён быў як цень — маўклівы, нікуды ў публічнай прасторы не ўмешваўся, і гэта, відаць, не задавальняла Лукашэнку. Мусіць, яму патрэбны іншы чалавек. А чаму не задавальняла прэзідэнта асоба Косінца, пакуль што цяжка сказаць. А пра першага намесніка Мартынецкага ўвогуле нічога сказаць нельга, ён быў зусім малазаўважны.

Магчыма, што сітуацыя крызісу запатрабавала нейкіх новых захадаў. Падчас апошняй публічнай сустрэчы з Косінцам Лукашэнка папракаў сваю адміністрацыю ў дрэннай кадравай палітыцы: маўляў, вы не прапаноўваеце мне людзей, здольных падаваць ідэі, што маглі б дапамагчы выйсці з крызісу, не мяняючы сістэму. Косінец не змог гэтага зрабіць. Я не ведаю, хто гэта можа зрабіць, тым не менш, публічнае незадаволенне ягонымі дзеяннямі кіраўнік дзяржавы выказваў зусім нядаўна.

***— Што можна сказаць пра фігуру Валера Міцкевіча, якія стаўся выканаўцам абавязкаў кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта?***

— Ён таксама не вельмі заўважны. Мінкевіч займаўся сваёй вузкай справай — заканадаўствам, рыхтаваў нейкія праваыя забеспячэнні заканадаўчых актаў. Думаю, што гэта часовае прызначэнне, хаця хто ведае, наколькі гэта часова і хто можа потым узначаліць адміністрацыю прэзідэнта. Хадзілі чуткі пра Сяргея Сідорскага (былога прэм'ер-міністра Беларусі. — **Г.К.**), але незразумела, наколькі гэта рэальна. Кадравыя пытанні — самая цяжкая і самая закрытая тэма ў Беларусі. Бо ў нас закрытае грамадства, закрытая сістэма.

***— Дык які кіраўнік адміністрацыі патрэбны?***

— Такі, які можа лавіць думкі — нават тыя, якія яшчэ не выказаў Аляксандр Лукашэнка, падтрымаць іх, знайсці людзей, што маглі б іх рэалізаваць, стварыць адпаведныя механізмы. Гэта мусіць быць цень прэзідэнта ва ўсіх сэнсах гэтага слова.

З іншага боку, кадры ўвесь час патрэбна мяняць. Гэта таксама адна з рысаў стылю кіравання Лукашэнкі. Не даваць ім доўга затрымлівацца на адной пасадзе. Тут хіба што адна Лідзія Ярмошына (старшыня Цэнтрвыбаркаму са стажам 20 гадоў. — **Г.К.**) затрымалася на сваёй пасадзе, і Лукашэнка яе не адпускае. А ўсе астатнія мяняюцца.

***— Ці можна чакаць зменаў у іншых уладных структурах, да прыкладу, ва ўрадзе?***

— Думаю, так. Косінец прывёз з сабою з Віцебшчыны даволі шмат людзей, якія апынуліся, у тым ліку, і ва ўрадзе. Напрыклад, віцэ-прэм'ер Качанава — выхадзец з Віцебскай вобласці — верагодна, апынулася на гэтай пасадзе з рэкамендацыі Косінца. А таксама намеснік міністра спорту па турызме, і гэта толькі наўскідку. А ўвогуле, шмат якія яшчэ пасады былі занятыя па прапанове Косінца. Таму цалкам рэальна, што адбудуцца і іншыя змены.

# Кампенсацыю за смерць сына ў СІЗА

**Маці загінулага ў Мінскім СІЗА №1 мінчука Ігара Пцічкіна, рыхтуе пазоў аб спагнанні маральнай і матэрыяльнай шкоды з Дэпартамента выканання пакаранняў МУС і фельчара ізалятара Аляксандра Крылова.**



Турэмнага лекара суд прыгаварыў да трох гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах пасялення. Крылоў абскардзіў прысуд у апеляцыйным парадку ў Мінскім гарадскім судзе, калегія якога 25 лістапада знайшла падставы для змякчэння пакарання на два месяцы.

Жана Пцічкіна, якая больш за тры гады дамагалася ўзбуджэння крымінальнай справы, зараз праз суд скарыстаецца правам на падачу пазову аб спагнанні маральнай і матэрыяльнай шкоды і будзе спрабаваць атрымаць кампенсацыю за гібель сына і за тыя пакуты, якія яна ў сувязі з гэтым вынесла.

Каментуючы пазіцыю фельчара Аляксандра Крылова на судзе, Пцічкіна з прыкрасцю адзначае: «Фельчар нават не выбачыўся перад намі, не глянуў у наш бок, не выказаў аніякага спачування».

Жана Пцічкіна распавяла праваабаронцам аб тым, што яна не пакідае надзеі высветліць, адкуль на целе сына з'явіліся сінякі і гематомы, якія зафіксаваныя ў матэрыялах крымінальнай справы. Раней ёй было адмоўлена ва ўзбуджэнні справы па факце нанясення сыну цялесных пашкоджанняў, якія маглі паслужыць прычынай ягонай смерці. Зараз маці разам з адвакатам падрыхтавала скаргу ў пракуратуру Маскоўскага раёна, у якой просіць правесці па гэтым факце дадатковую праверку.

Нагадаем, жыхар Мінска Ігар Пцічкін памёр 4 жніўня 2013 года ў камеры медчасткі ўстановы, дзе да яго былі ўжытыя «меры фізічнага стрымлівання ў выглядзе фіксацыі рамянямі». У такім стане Пцічкін знаходзіўся больш за 20 гадзін да моманту смерці.

**Паводле spring96.org**

# Сёння — у сабаку, заўтра — у чалавека

**Пасярод белага дня невядомы застрэліў сабаку на вачах гаспадыні. Другога сабаку жанчына паспела закрыць сваім целам.**

«Побач з кальцавой дарогай, па-зверску, прыцэльным агнём невядомым паляўнічым забітая мая Эля, ёй было ўсяго 3 гады, проста так забіў. Ні за што! — напісала на сваёй старонцы ў фэйсбуку Святлана Бруснікіна.

Мы звязаліся са Святланай, каб даведацца пра падрабязнасці:

— Мы з сабакамі выехалі пагуляць за горад, за Кальцавую дарогу на поле непадалёк ад вёскі Яркава (за кіламетр ад Сухарава). Толькі прыехалі, ішлі ўздоўж возера. Здалёк пабачылі чалавека ў белым камуфляжы, што ішоў з боку Яркава. Стрэльбу расчахлёную ён трымаў дзвюма рукамі перад сабой. Мы ішлі насустрач. Здалёк мы падумалі, што гэта недзе тут пейнтбалісты гуляюць. Мы з сабакамі пасунуліся на іншы бок дарогі.

Калі да нас заставалася колькі метраў, ён моўчкі ўскінуў стрэльбу і навёў на нас. Сабакі захваляваліся, я скамандавала: «Штэйт!» (Стаяць!). Паслухмяная Элька замерла. Фурба наогул развярнуўся да нас. Элька толькі дрэсіроўку здала, толькі дыплом атрымала. Стрэльба ў яго была напагатове. Эля не брахала, ніхто не брахаў. Яна стаяла, апусціла галаву, каб панюхаць снег, і ў гэты момант ён стрэліў. Ён стрэліў у холку. Не ў грудзі патрапіў, не ў галаву. То бок яна не нападала. А пасля ён перавёў стрэльбу на Фурба. Я выскачыла на лінію агню, закрыла сабой сабаку і пабегла на яго. Ён паставіў мне падножку і стукнуў локцем у спіну. Я ўпала ў снег, крычу: «Што ты робіш!». Ён моўчкі пачаў збягаць. Пабег у бок Хацежына.

Міліцыя прыехала праз 1,5 гадзіны пасля выкліку. Мы пайшлі па следзе. У паляўнічага за спінай быў забіты заяц. Засталіся сляды крыві на снезе. Крывавы след прывёў да апошняга дому ў Дзегцяроўцы. І ўсё.

Забойца быў зусім побач, і Святлана вельмі добра яго разгледзела, таму без праблем змагла апазнаць. Па яе словах, паляўнічаму, што забіў сабаку, гадоў за 40. Рост 176–180. Вельмі светлыя бровы і вусы ды чырвоны твар. Пра гэта Святлана Бруснікіна распавяла і міліцыі. Але тых з сумнай іроніяй запыталі: «Што ж вы яго не сфатаграфавалі?»

Потым Святлана Бруснікіна паехала ў аддзяленне міліцыі і напісала адпаведную заяву. «Мне з базы дадзеных паказалі фотаздымкі ўсіх мясцовых людзей з зарэгістраванай зброяй, але я нікога не пазнала. У аўторак, 6 снежня, сабаку зрабілі ўскрыццё: вынялі пластыкавы драбавы кантэйнер і саму дроб», — распавяла жанчына.

Наяўнасць адпаведнай заявы пацвердзілі ў Ждановіцкім аддзеле міліцыі. Праверка будзе праводзіцца 10 дзён.

Калі стралка знойдуць і яго віну дакажуць, мужчыне можа пагражаць да 10 гадоў турмы. Справа ў тым, што ў месцы, дзе ўсё здарылася, паляванне забаронена — паляўнічых угоддзяў там няма.

Акрамя гэтага мужчына парушыў яшчэ некалькі правілаў палявання. Напрыклад, забаронена страляць у кірунку людзей і хатніх жывёл, калі да іх бліжэй за 500 метраў. З улікам таго, што з сабакі дасталі драбавы кантэйнер, па словах паляўнічых, стрэл адбыўся з адлегласці да 10 метраў і менш. Таксама забаронена накіроўваць зброю (нават незараджаную), на чалавека або хатніх жывёл.

Найбольшае пакаранне мужчыну пагражае, калі яго ўчынак кваліфікуюць па артыкуле «Хуліганства, здзейсненае з прымяненнем зброі». Калі яго віну дакажуць, мужчыне пагражае ад 3 да 10 гадоў турмы.

Складана мужчыне і апраўдаць свае дзеянні самаабаронай, бо дроб трапіў сабаку збоку ў холку, што цалкам пацвярджае словы Святланы.

Святлана Бруснікіна просіць неабыякавых людзей дапамагчы ў пошуках таго паляўнічага, каб забойца не застаўся не пакараным.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Чароўная моц інтэрнэту

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усе мы ведаем, як Лукашэнка ставіцца ад інтэрнэту. Ён даўно называў яго «вялікай сметніцай». Але на гэтым тыдні высветлілася, што для таго, каб лазіць па гэтай сметніцы, у кіраўніка дзяржавы ёсць спецыяльна навучаны чалавек. І можа, нават, не адзін.**

«Мне дакладаюць, што нярэдка паведамленні на выплату збору паступаюць ад падатковых інспекцый грамадзянам, якія не абавязаныя плаціць гэты збор і не павінны былі ўключацца дзяржаўнымі органамі ў спісы плацельшчыкаў: студэнтам, жанчынам, якія знаходзяцца ў дэкрэтных адпачынках, нават салдатам тэрміновай службы», — сказаў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе, прысвечанай знакамітаму дэкрэту аб лайдацтве. Калі наш правадыр сказаў «нярэдка», — гэта значыць, для яго зрабілі адпаведную падборку. А дзе найбольш такіх абуральных фактаў? Зразумела, гэта аповеды людзей у сацыяльных сетках.

Заўважым, што Лукашэнка не згадаў пра яшчэ больш цікавыя выпадкі — калі падатковая дасылала «лісты шчасця» даўно памерлым людзям. Значыць, гэтую інфармацыю, каб зусім ужо не шакаваць кіраўніка дзяржавы, адфільтравалі. Каб Рыгоравіч «сёрфіў» сам, ён бы на яе абавязкова наткнуўся, балазе, выпадкаў хапае. Значыць, ёсць адмысловыя людзі, якія вызначаюць, што чытаць Аляксандру Рыгоравічу ў інтэрнэце, а што — не.

Сама нарада на сенсацыю не цягне — і без таго было зразумела, што дэкрэт трэба дапрацоўваць. Вось каб падатковая адказала б на пытанне, адкуль дармаеды будуць браць грошы, каб заплаціць падатак, — гэта было б ужо нешта. А так — проста пашырыцца спіс тых, хто гэты падатак плаціць не павінен. Ён і без нарады ў Лукашэнкі пашыраўся ўжо некалькі разоў.

Адзінае, што мы даведаліся, — гэта лічбы. У 2013–2014 гадах, калі актыўна абмяркоўвалася неабходнасць увядзення такога падатку, прадстаўнікі ўлады заяўлялі, што ў краіне налічваецца амаль паўмільёна «дармаедаў». За год дзеяння дэкрэту падаткавікі знайшлі толькі 73 тысячы лайдакоў, якім былі разасланыя паведамленні. А пагадзіліся з тым, што яны дармаеды, толькі 9500 чалавек, якія заплацілі ў бюджэт 2,8 мільёна рублёў.

Тым, хто чытае інтэрнэт замест Лукашэнкі, на гэтым тыдні таксама ўскладнілі працу. Міністэрства сувязі паспрабавала заблакаваць у краіне самы вядомы ў свеце сродак інтэрнэт-бяспекі, праз які можна заходзіць у інтэрнэт ананімна, — праграму Tor. Пры гэтым у міністэрстве паведамілі, што абмяжоўваецца не ананімны доступ у інтэрнэт, а наведванне забароненых сайтаў.

У Мінсувязі нагадалі, што, у адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства Беларусі, пастаўшчыкі інтэрнэт-паслуг абавязаныя абмяжоўваць доступ да рэсурсаў, якія змяшчаюць інфармацыю, распаўсюд якой забаронены. У той жа час ёсць інструменты (проксі-серверы, ананімныя сеткі тыпу Tor і іншыя), якія дазваляюць карыстальнікам атрымліваць доступ да заблакаваных інтэрнэт-рэсурсаў. У адпаведнасці з палажэннем аб парадку абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў, размешчаных у інтэрнэце, такія інструменты таксама падлягаюць блакаванню.




Аднак нагадваем, што заблакаваць Tor яшчэ не атрымалася ніводнай краіне ў свеце, у тым ліку Кітаю. Пакорпаўшыся ў настройках Tor, карыстальнікі сістэмы лёгка абышлі блакаванне.

Дый прагрэс не стаіць на месцы. Некаторыя найбольш распаўсюджаныя браўзеры (напрыклад, Opera і Mozilla) ужо дадалі ў сваю структуру VPN — інструмент, які дазваляе рабіць тое ж, што і Tor: абыходзіць нацыянальную блакіроўку сайтаў ды заставацца ананімным у інтэрнэце. Раней VPNам не карысталіся, бо ён быў груваcткім і платным, а зараз — лёгкі і бясплатны.

А яшчэ на тыдні да нас завітала маштабная дэлегацыя з Сенату Польшчы. Польскія дэпутаты сустрэліся з Лукашэнкам, са сваімі калегамі і нашымі апазіцыянерамі ды ўсклалі вянкі ў Курапатах. У выніку маршалак сената Польшчы Станіслаў Карчэўскі, размаўляючы з журналістамі, сказаў, што «працэс дэмакратызацыі Беларусі ідзе, у нас ёсць два шляхі — гаварыць ці не гаварыць з сённяшняй беларускай уладай. І як з уладай, так і з апазіцыяй, мы прыйшлі да высновы, што ўсё ж такі размаўляць трэба».

Адказваючы на пытанне TUT.BY, ці азначае гэты візіт прызнанне беларускага парламента як легітымнага, маршалак Сейма паўтарыў, што ў Польшчы ёсць два выйсця: весці дыялог ці не весці яго: «Трэба, каб гэты працэс быў паступовым, без нейкіх рэзкіх крокаў». «Толькі цярпенне і настойлівасць прывядуць нас да паляпшэння адносін і дэмакратызацыі», — адзначыў ён.

Што на гэта можна сказаць? Шкада Польшчу, асабліва, калі яна па-ранейшаму жадае дэмакратызаваць Беларусь шляхам дыялогу.

Затое жыве і перамагае справа апазіцыянера Уладзіміра Падгола. Гэта ён, дзеля абмежавання наркатрафіку і алкаголю, прапанаваў увесці кантроль на мяжы з Расіяй. Але прасоўваў ён ідэю фактычна самотна, нават не ведаючы, што прыхільнікаў у яго багата.

Жыхар Магілёва Антон Касцоў пайшоў іншым шляхам: ён стварыў на рэсурсе petitions.by петыцыю, у якой зазначыў: «Адсутнасць мытнага і памежнага кантролю на мяжы нашай дзяржавы з Расійскай Федэрацыяй пагражае эканамічнай і грамадскай бяспецы нашай краіны. Паводле дадзеных МУС РБ, больш за 60% кантрабанднага тавару экспартуецца менавіта з Расійскай Федэрацыі. Ценявы рынак няякаснага алкаголю з Расіі складае ў сярэднім каля 200 мільёнаў долараў ЗША штогод у грашовым эквіваленце. Найбольш небяспечнай з'яўляецца бясконцая плынь нелегальных наркатычных і псіхатропных рэчываў з суседняй краіны».

Петыцыя была створана 23 верасня, і яе падпісаў 551 чалавек. Дакумент быў накіраваны ў Савет міністраў і Палату прадстаўнікоў, і 6 снежня Касцову адказалі з апарату Саўміна, што яго прапанова перанакіравана для разгляду ў памежны і мытны камітэты краіны.

Як вядома, Падгол на гэтай глебе пасварыўся з АГП і БНФ — з апошнім не столькі з-за ідэі, колькі з-за формы, у якой ён прапагандаваў стварэнне мяжы з Расіяй. 550 падпісантаў петыцыі Касцова — гэта больш паловы колькасці грамадзян, неабходных для стварэння ўласнай палітычнай партыі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алесь Юркойць



**У Партызанскім судзе Мінску трэці тыдзень працягваецца працэс над 11 мытнікамі Ашмянскай мытні, якіх абвінавачваюць у хабары.**

Суд перайшоў да апытання сведак, а «самы беларускі мытнік» Алесь Юркойць заявіў пра катаванні ў турме КДБ.

Па словах Юркойця, ахоўнікі не давалі яму нармальна адпачываць, тры ночы запар грукалі дубінкамі ў дзверы камеры, асляплялі яго святлом. На яго думку, такім чынам на яго ціснулі, каб прызнаў віну.

Дарэчы, віны сваёй Юркойць так і не прызнаў. Ён заявіў, што меў непрыязныя адносіны з былым калегам Сяргеем Чэпіным, які паведаміў следству, што быццам тройчы перадаваў грошы Юркойцю.

Як адзначаюць журналісты, следства інкрымінуе Юркойцю больш за 12 тысяч долараў хабару. Але ў справе згадваецца толькі пра тры выпадкі нібыта перадачы грошай, а гэта — прыкладна 1000 долараў. Адзін з назіральнікаў выказаў меркаванне, што следчыя проста падлічылі, колькі аўтамабіляў за пэўны час аформіў Юркойць, а доказы аб магчымых парушэннях пакуль не агучаны.

Адначасова працэсы ідуць над іншымі мытнікамі ў Кастрычніцкім, Фрунзенскім і Мінскім абласным судах.

## Алена Анісім



**Услед за Ганнай Канапацкай разліковы лісток заробку дэпутата Палаты Прадстаўнікоў — ужо за поўны месяц працы — выклала на сваю старонку ў Фэйсбуку Алена Анісім.**

Такім чынам мы даведаліся, што налічаны заробак дэпутата складае 2129 рублёў 93 капейкі. З выманнем усіх падаткаў (у тым ліку прафсаюзных унёскаў — 21 рубель 30 капеек) спадарыня Анісім атрымлівае «на рукі» 1810 рублёў 44 капейкі.

Увагу інтэрнэт-супольнасці выклікала тое, што фактычна заробак дэпутата — то бок аклад, — складае толькі палову гэтай сумы, 917 рублёў 90 капеек. Астатняе — прэмія, надбаўка за клас дзяржслужбоўцы і за выслугу гадоў. Да гонару спадарыні Анісім, якая разам з каментатарамі разважала над сваім заробкам, яна прызналася, што не ведае, чаму ёй налічваюць «выслугу гадоў» (можа, гэта за агульны стаж?) і прэмію. З іншага боку, Анісім зазначае, што ў разлікоўку не трапілі камандзіровачныя выдаткі — можа, іх замаскіравалі пад «прэміяй»?

Дарэчы, знайшліся тыя, хто лічыць гэты заробак не такім ужо і вялікім — асабліва ў сітуацыі, калі дэпутату больш нідзе працаваць нельга. «Ваша меркаванне толькі пацвярджае высноўе: усё пазнаецца ў параўнанні. Сама пастаноўка пытання пра заробак дэпутата проста сведчыць пра грашовы дысбаланс у нашым грамадстве, пра мізэрную аплату працы, што датычыць найперш людзей навукі, культуры, адукацыі. А таксама пра кепскія справы ў нашым аграрным сектары. Увогуле, праблем шмат», — каментуе Анісім, якая сама, заўважым, лічыць свой заробак завышаным.

## Аляксандр Хацкевіч



**Беларуская федэрацыя футбола спыніла кантракт з галоўным трэнерам зборнай Аляксандрам Хацкевічам у аднабаковым парадку.**

Нечаканасць палягае ў тым, што кіраўнік БФФ Сяргей Румас расказаў, чаму гэта было зроблена.

«На лістападаўскай сустрэчы, улічваючы няўдалы старт кваліфікацыі, мы прапанавалі Хацкевічу ўмовы далейшай працы. Па якасці гульні і выніку каманда не прасоўвалася наперад, і фінансавую частку кантракту трэнера было вырашана скарэктаваць у бок змяншэння. Аляксандр Мікалаевіч прыняў гэта да ўвагі і ўзяў час на роздум. А на днях мы зноў сустрэліся і вярнуліся да нашай гутаркі. Хацкевіч паведаміў, што ўсё прадумаў і ўмовы федэрацыі прыняць не можа. Таму ўласна кантракт скасаваны», — паведаміў Румас.

«Адносна выніку ў нас была выразная дамоўленасць. Перад стартам кваліфікацыі сустракаліся з Хацкевічам — з мэтай намеціць арыенціры на восеньскі перыяд. Аляксандр Мікалаевіч іх акрэсліў сам: сем балаў і месца не ніжэй за трэцяе. На жаль, задача не выкананая», — сказаў Румас.

Да ўсяго Румас паведаміў, што, згодна з кантрактам, заробак Хацкевіча складаў 240 тысяч долараў на год.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Пераразмяркоўвай і кіруй

**У эканоміках, заснаваных на перапрацоўцы сыравіны, дэмакратыя не працуе, таму што дзяржава залежыць не ад падаткаў, а ад пошлін.**

У сувязі з прафесійным святам работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці «самая салідная газета краіны» апублікавала віншаванне адзінага палітыка (АП). Прывяду апошні абзац: «Дзякуй вам за самааддана служэнне сваёй справе. Жадаю моцнага здароўя, бадзёрасці духу, увасаблення ў жыццё намечаных планаў на карысць роднай Беларусі».

Якое галоўнае адрозненне амерыканскага фермера ад беларускага селяніна? Першы працуе. Другі служыць. Звернемся да заснавальніка эканамічнай навукі Адама Сміта: «Не ад спрыяльнага стаўлення мясніка, півавара або булачніка чакаем мы атрымаць свой абед, а ад дбання імі пра ўласныя інтарэсы».

Пад займеннікам «мы» ў дадзеным выпадку варта разумець жыхароў краін з рынкавай эканомікай. Няшчасныя яны людзі. Іншая справа — «Мы» з вялікай літары, чые індывідуальныя абеды, а заадно і харчовую бяспеку краіны, забяспечваюць не своекарыслівыя прыватнікі, а работнікі, якія ўвасабляюць у жыццё планы «на карысць роднай Беларусі».




## Redistributio — пераразмеркаванне

Веданне азбукавых паліталагічных ісцін дазваляе мне вылучыць дзве эканамічныя мадэлі. Першая — гэта рынак і рынкавая эканоміка, базавыя элементы якой: прыватная ўласнасць, купля-продаж, прыбытак і прыватная праца на ўласніка. Другая сістэма — гэта раздатачная эканоміка. У ёй базавыя адносіны — гэта здача-раздача, уласнасць прадстаўлена як грамадска-службовая, скаргі з'яўляюцца сігналамі зваротнай сувязі, а прыватнай працы супрацьпастаўленая службовая праца, гэта значыць праца на дзяржаву ці на грамадства.

Гэта ідэальныя мадэлі. Але нават у Амерыцы, цытадэлі сучаснай рынкавай эканомікі, сёння існуе каласальны аб'ём нярынкавых адносін у выглядзе датацый, трансфертаў, субсідый, субвенцый ды іншага.

Сацыёлаг Вольга Бяссонава называе такі тып адносін «раздатачным», а класік антрапалогіі Карл Паланьі — рэдыстрыбутыўнымі (рэдыстрыбуцыя — ад лацінскага «redistributio» — пераразмеркаванне). Вікіпедыя падказвае, што пад рэдыстрыбуцыяй варта разумець неэквівалентны, вертыкальны абмен у выглядзе валявой канфіскацыі цэнтральнай уладай прыбавачнага прадукту з мэтай яго наступнага натуральнага пераразмеркавання.

За прыкладам далёка хадзіць не трэба. 17 красавіка, падчас прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў расійскіх рэгіянальных СМІ, адзіны палітык патлумачыў нізкую канкурэнтаздольнасць беларускіх грузавікоў тым, што КамАЗ спажывае газ па $ 65, а МАЗ — па $ 278.

Амаль чатырохкратная розніца! Але, прабачце, а па якой цане Расія пастаўляе газ у Беларусь? Адказ на гэтае пытанне лёгка адшукаць у інтэрнэце — па $ 137. Хто ж яе з падвойным наварам пастаўляе флагману беларускага аўтамабілебудавання? Мяркую, што акрамя роднай дзяржавы іншага кандыдата на падвоенне цаны мы не знойдзем.

Схільнасць дзяржаў пераразмяркоўваць лёгка вызначыць па долі бюджэту ў ВУП. У «азіяцкіх тыграў», чые эканомікі растуць тэмпамі вышэй за сусветныя, яна ніжэй за 25%. У Беларусі ў 2000 годзе гэты паказчык склаў 34,8%, а ў 2014 годзе — 28,1%. Аднак жадаючым папляскаць у ладкі я б рэкамендаваў стрымацца эмоцыі. У апошні год другога тысячагоддзя кансалідаваны бюджэт уключаў унёскі на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне. З 2010 года яны перайменаваны ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) і не ўключаюцца ў бюджэт. А гэта сёння каля 12 дадатковых працэнтаў ВУП.

## Калькулятар і статыстыка

Мабыць, не абыходзіцца ні аднаго выступу АП на эканамічную тэму, у якім бы ён ні закрануў «няроўныя ўмовы». Гэта яны прымушаюць беларусаў «уціскаць па ўсіх напрамках, у тым ліку і па заработнай плаце». Цікава, а па якой цане атрымліваюць газ аўтамабілебудаўнікі Германіі? Нешта я ад спадарыні Ангелы Меркель падобных скаргаў ніколі не чуў. Чаму б айчыннаму вытворцу ні рвануць на нямецкі рынак і ні прымусіць тамтэйшых бюргераў сціснуцца «па ўсіх напрамках»?

Яшчэ адна тэма, да якой увесь час звяртаецца АП, — гэта магчымасць самім здабываць расійскую нафту. Пад права на здабычу падводзіцца гістарычны падмурак: «Я нагадваю расійскім кіраўнікам — у свой час на радовішчах, дзе працавалі беларусы, украінцы, рускія, мы не дзялілі нічога. <...> Я часта кажу: мы ж разам стваралі гэта, і беларуская вытворчая школа была вельмі магутнай».

У СССР разам стварылі не толькі «гэта», але і ўсе беларускія прамысловыя флагманы. Пасля Беларусь засталася з неканкурэнтнымі флагманамі, а Расія — з сыравінай, цэны на якую ўпэўнена раслі ў «нулявыя» гады.

У Расіі толькі 1% насельніцтва заняты ў паліўна-энергетычным комплексе (здабыча і транспарціроўка). І гэты 1% забяспечвае 2/3 даходнай часткі бюджэту. Такая структура занятасці спараджае залежнасць дзяржавы ад прыродных рэсурсаў, а не ад падаткаплацельшчыкаў (насельніцтва). У выніку мадэль класічнай палітычнай эканоміі з яе працоўнай тэорыяй цаны «адмаўляецца» працаваць.

Дзяржава, што здабывае асноўныя даходы з гандлю рэсурсамі, не зацікаўлена ў незалежным судзе і ў развіцці ўнутранай канкурэнцыі. Для росту эканомікі яна не мае патрэбы і ў кваліфікаваных спецыялістах. Замест іх фармуецца бюракратычная сістэма, што пераразмяркоўвае матэрыяльныя даброты.

Але паколькі любы ўнікальны рэсурс спараджае жаданне яго набыць, дзяржава, якая гандлюе прыроднымі рэсурсамі, пастаянна асцерагаецца ворагаў. Без сур'ёзных выдаткаў, звязаных з абаронай транспартных шляхоў і фінансавых патокаў, ёй не абысціся.

Але мы ж — былы зборачны цэх СССР, а не яго прыродная камора. Якое дачыненне ўсё сказанае вышэй мае да Беларусі? Адказ на гэта пытанне можна знайсці з дапамогай калькулятара і афіцыйнай статыстыкі.

У 2015 годзе беларускі экспарт склаў $ 32,9 мільярда, амаль трацiна з якіх (31,3%) прыпадала на нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні. І гэта ва ўмовах амаль двухразовага падзення сусветных цэнаў на сыравінныя тавары! «Падводная лодка ў стэпах Украіны» — быў такі анекдот у мае школьныя гады. Яе сучасны аналаг: «Беларусь — Petro State». А чаму б і не? Здабыўшы ў мінулым годзе 1,6 мільёна тон нафты, рэспубліка-партызанка вырабіла 22 мільёны тон нафтапрадуктаў.

## Да Эміратаў як да Сонца

Такая фантастычная эфектыўнасць нафтаперапрацоўкі ажыццяўляецца з мінімальным удзелам насельніцтва. Сацыяльным наступствам гэтага з'яўляецца фарміраванне двух класаў, або саслоўяў, — бюракратыі, якая здабывае, абараняе і гандлюе каштоўным рэсурсам, і ўсіх іншых, чыё існаванне залежыць ад пераразмеркавання рэнты з гэтага гандлю.

Палітычнае наступства гэтага — адмова ад прадстаўнічай дэмакратыі. Апошняя фармуецца толькі ў краінах, у якіх цана ствараецца працай. Як тут ні прыгадаць лозунг амерыканскай рэвалюцыі: «Няма падаткаў без прадстаўніцтва» (No taxation without representation). Але ў сыравінных (паразітычных) эканоміках галоўны прынцып дэмакратыі не працуе, таму што дзяржава залежыць не ад падаткаў, а ад пошлін.

АП неаднаразова заяўляў пра магчымасць пракарміць на тэрыторыі Беларусі 30 мільёнаў чалавек. Такі аптымізм не варта ўспрымаць сур'ёзна. І цяперашнія 9,5 мільёна для айчыннага Petro State з'яўляюцца залішнімі.

У 2013 годзе падчас чарговых зносін з прадстаўнікамі расійскіх рэгіянальных СМІ АП паскардзіўся на неабходнасць пералічваць у бюджэт Расіі мытныя пошліны за нафтапрадукты, што пастаўляюцца на Захад: «4 мільярды долараў — у бюджэт! А калі б яны засталіся ў краіне — я б пабудаваў тут ужо Эміраты!»

Зноў узброімся статыстыкай і калькулятарам. Паводле дадзеных ААН, у 2013 годзе з $43 тыс. на душу насельніцтва Эміраты знаходзіліся на 22-м месцы ў сусветным рэйтынгу. Беларусь з $ 7,8 тыс. — на 81-м. Падзяліўшы $ 4 мільярды на 9,5 мільёна чалавек, мы атрымаем прыбаўку ў $ 421 на сярэднестатыстычную беларускую душу, што дазволіла б замацавацца на 77 месцы — паміж Румыніяй і Туркменістанам. Але да Эміратаў, як і раней, будзе як да Сонца.

Паводле яшчэ адной азбукавай паліталагічнай ісціны, эліты падзяляюцца на канструктыўныя і дэструктыўныя. Першыя кіруюць пры дапамозе правілаў, другія — загадаў. Калі зайсці на сайт АП і прагледзець прэс-рэлізы, прысвечаныя пытанням унутранай палітыкі, дык у большасці з іх мы выявім словазлучэнне «прэзідэнт запатрабаваў».

Дарэчы, АП неаднаразова патрабаваў «аптымізаваць дзяржапарат у самыя кароткія тэрміны». Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з Паслання–2013: «Мною 12 красавіка быў падпісаны ўказ, які прадугледжвае скарачэнне колькасці дзяржслужачых на 25%, ці 13 тысяч 617 адзінак».

І які ж вынік? Аналіз афіцыйнай статыстыкі, праведзены журналістамі «Нашай Нівы», выявіў, што за два гады (па стане на 2015/06/01 г.) армія чыноўнікаў скарацілася на 863 чалавека.

Чакаць іншага было звышнаіўна. Пакуль прырода беларускай дзяржавы застаецца рэдыстрыбутыўнай, спецыялісты ў галіне пераразмеркавання матэрыяльных выгод будуць размнажацца пачкаваннем, нягледзячы на «жорсткія» патрабаванні АП.

# Найлепшы падарунак для Беларусі

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1



«Прэсу расійскі лідар супраць звычаю браць не збіраецца, таму што плануе акрамя афіцыйных таксама неафіцыйныя перамовы. У гэты ж час, як стала вядома з пэўных крыніц, у Мінск прыедзе і прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук», — гаварылася ў артыкуле.

5 снежня Ельцын сустрэўся з Гарбачовым для абмеркавання перспектыў ССД у сітуацыі, калі народ Украіны настойвае на яе незалежнасці. Пасля сустрэчы ён заявіў журналістам, што «без Украіны саюзная дамова губляе ўсякі сэнс».

Пазней Станіслаў Шушкевіч так апісваў тое, што адбывалася:

«Мы (Ельцын, Краўчук, Шушкевіч і прыбылыя з імі асобы) спаткаліся 7 снежня 1991 года ў Віскулях, каб абгаварыць пытанні паставак нафты і газу ва Украіну і ў Беларусь». Па ўспамінах Шушкевіча, «нават збіраючыся ў Белавежскай пушчы па маім запрашэнні, мы першапачаткова не мелі намеру прымаць рашэнне аб выхадзе з СССР. Такіх нарыхтовак не было ні ў мяне і нашай дэлегацыі, ні, думаю, у іншых таксама». Трохі інакш апісваў становішча Леанід Краўчук: «Тэма спачатку была названая так: прыняць нейкую дэкларацыю або заяву наконт таго, што нова-агароўскі працэс зайшоў у тупік і што нам трэба шукаць нейкія новыя падыходы, рашэнні. <...> Мы пачалі рыхтаваць дакумент і пераканаліся, што проста дэкларацыяй, як першапачаткова меркавалася, не абысціся».

Вячаслаў Кебіч, які ў той час узначальваў беларускі ўрад, сцвярджае, што ініцыятарам Белавежскіх дамоваў выступіла расійская дэлегацыя, а само падпісанне было спантанным. Па яго словах, «усё гэта ведаў адзін Ельцын». Пры гэтым і Кебіч таксама ўпэўнены, што «ўся гэтая паездка задумвалася не з мэтай падпісання гэтай дамовы (аб распадзе СССР)», бо ні сам Кебіч, «ні Шушкевіч, ні Краўчук, ні Фокін з украінскага боку не ведалі, што будзе падрыхтаваны і падпісаны такі дакумент». Аказалася, што «расійская дэлегацыя з Шахраем, Шохіным, Бурбулісам прыехала толькі з папярэднім планам: калі справа будзе выгарацы, калі будзе згода з боку Украіны, то можна будзе падпісаць дакумент». Кебіч растлумачыў, што расійскаму боку патрабавалася згода Украіны з-за таго, што «кантакт з Шушкевічам у Ельцына быў, а вось з Краўчуком у Ельцына склаліся нацягнутыя адносіны».

З усіх гэтых апісанняў падзей, што адбываліся ў тым снежні, добра бачныя некалькі важных момантаў.

Па-першае, больш-менш выразнага плану дзеянняў не было ні ў каго. Па сутнасці, усе дзейнічалі па сітуацыі, ва ўмовах хаосу.

Па-другое, усе ўдзельнікі тых падзей разумелі, што Савецкі Саюз скончыўся, — але не ведалі, як гэта юрыдычна аформіць. Проста дэнансаваць дамову 1922 года было нельга — саюзныя структуры, найперш сілавыя, яшчэ існавалі не толькі фармальна, так што ўзнікала вялікая рызыка грамадзянскага канфлікту. Дый простыя грамадзяне хоць і галасавалі за незалежнасць, псіхалагічна яшчэ адчувалі сябе грамадзянамі СССР. І было складана прадказаць, чый бок яны зоймуць, калі пачнецца сур'ёзнае супрацьстаянне.

СНД у той момант з'явілася як свайго кшталту «дэмпфер», закліканы змякчыць удар, шок ад распаду СССР. Інакш кажучы, дзякуючы СНД у той момант распад СССР выглядаў не як аднамомантная падзея, а як працэс трансфармацыі Саюза ў нейкае іншае аб'яднанне рэспублік.

### Без Казахстана

На наступны дзень Гарбачоў выступіў з заявай пра тое, што кожная саюзная рэспубліка мае права выхаду з Саюза, але лёс шматнацыянальнай дзяржавы не можа быць вызначаны толькі воляй кіраўнікоў трох рэспублік — гэта пытанне павінна вырашацца толькі канстытуцыйным шляхам з удзелам усіх саюзных рэспублік і з улікам волі іх народаў. Аднак яго тады ўжо мала хто слухаў.

Іншае пытанне — чаму ў Віскулях тады не было яшчэ і кіраўніка Казахстана. Сам Назарбаеў пазней не раз сцвярджаў, што «ніколі б не падпісаў такую дамову, як Белавежская». Аднак у расповедзе Шушкевіча ўсё выглядае так:

**Усе ўдзельнікі тых падзей разумелі, што Савецкі Саюз скончыўся, — але не ведалі, як гэта юрыдычна аформіць. Проста дэнансаваць дамову 1922 года было нельга — саюзныя структуры, найперш сілавыя, яшчэ існавалі не толькі фармальна, так што ўзнікала вялікая рызыка грамадзянскага канфлікту**

«Калі мы (Ельцын, Шушкевіч, Краўчук) памкнуліся ўсе ехаць у Белавежскую пушчу, Назарбаеў, наадварот, паляцеў у Маскву. Мы звязаліся з яго самалётам, і Барыс Мікалаевіч, як вялікі сябар, стаў клікаць яго: «Нурсултан, прыязджай, мы тут збіраемся важныя пытанні вырашаць». Была ўключаная гучная сувязь, і мы ўсе чулі, як Назарбаеў сказаў: «Так, зараз. Заправімся, і я прылячу». Але ў Маскве... Назарбаеў прыехаў да Гарбачова і сумняваўся, чыя возьме — ці то Гарбачова, ці то наша. Міхаіл Сяргеевіч вельмі жадаў, каб Назарбаеў быў з ім, і паабяцаў яму ў выпадку поспеху пасаду старшыні Вярхоўнага Савета СССР (вакантную пасля арышту Лук'янава). І Назарбаеў, як чалавек усходні і мудры, адкруціўся ад нашай сустрэчы».

**Для даведкі:**

8 снежня 1991 года вышэйшыя службовыя асобы і кіраўнікі ўрадаў трох саюзных рэспублік: Барыс Ельцын і Генадзь Бурбуліс (РСФСР), Станіслаў Шушкевіч і Вячаслаў Кебіч (БССР), Леанід Краўчук і Вітольд Фокін (Украіна) падпісалі так званае Белавежскае пагадненне.

Прэамбула дакумента канстатавала, што «Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне». Артыкул 1-ы абвяшчаў: «Высокія дагаворныя бакі ўтвараюць Садружнасць Незалежных Дзяржаў» (СНД).

Пагадненне заяўляла пра імкненне развіваць супрацоўніцтва ў палітычнай, эканамічнай, гуманітарнай, культурнай і іншых галінах. Артыкул 14-ы вызначаў Мінск «афіцыйным месцам знаходжання каардынацыйных органаў садружнасці».

10 снежня — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў Белавежскія пагадненні.

# Міхась Кукабака: Трэба

Міжнародны Дзень правоў чалавека** адзначаецца ва ўсім свеце 10 снежня. У гэты дзень у 1948 годзе была прынятая Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Гэты дакумент перакладзены на больш чым 370 моваў і дыялектаў свету. Дэкларацыю падпісалі ўсе чальцы Арганізацыі аб'яднаных нацый (192 краіны).

**Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека** абвяшчае правы асобы, грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды. Гэта значыць, роўнасць перад законам, права кожнага на свабоду і асабістую недатыкальнасць, свабоду сумлення і іншыя.

У Дэкларацыі заяўлена таксама, што **ўсе людзі маюць роўныя правы**, якія не залежаць ад іх асобасных адрозненняў і ад розніцы ў палітычных сістэмах іх краін. Дэкларацыя не носіць абавязковага характару. У аснову дакумента былі пакладзены ўсе наяўныя на той момант напрацоўкі чалавечай думкі ў гэтым пытанні. Гэта быў першы вопыт калектыўнай распрацоўкі ўніверсальнага дакумента па правах чалавека.



Міхась Кукабака, паэт Алег Бембель, паэтка Антаніна Хатэнка ды мастак Мікола Купава. Дзяды, 1990 год, Парк Чалюскінцаў — месца масавых расстрэлаў пры Сталіне. Фотаздымак Уладзіміра Сапагова (1952–2012)

**Міхась Кукабака — самы вядомы беларускі дысідэнт савецкіх часоў — 3 снежня адзначыў 80-годдзе. За свае перакананні, адстойванне правоў чалавека, свабоды слова і распаўсюд Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ён 17 гадоў быў пазбаўлены волі.**




Да юбілею падрыхтаваная дакументальная кніга «Міхась Кукабака» — зборнік артыкулаў, інтэрв'ю, лістоў. Аснову кнігі складае інтэрв'ю, запісанае 2–4 лютага 2013 года ў маскоўскай кватэры Міхася Кукабакі. Кніга падрыхтаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна» і Цэнтрам даследаванняў грамадзянскай супольнасці Беларусі.

Прапануем фрагменты кнігі, якія тычацца жыцця Міхася Какубакі ў Бабруйску.

### Дзяцінства

Нарадзіўся я 3 снежня 1936 года ў г. Бабруйску. Хоць да 1958 года ў пашпарце была дата 2 лютага. Думаю, не памылка. Мабыць, каб крыху раней мяне сплавіць з дзіцячага дома, і зрабілі на дзесяць месяцаў старэйшым. А пасля арміі ўсё стала на свае месцы. З матэрыялаў крымінальнай справы за 1970 год даведаўся, што маці нарадзілася ў 1912 годзе і працавала на лесазаводзе там жа, у Бабруйску. Колькі сябе памятаю, а гэта, мабыць, з трох-чатырох гадоў, быў я непажаданым дзіцёнкам. Маці была да мяне абыякавая, і ў мяне таксама не было да яе нейкіх сыноўніх пачуццяў.

Мной займалася бабуля, і, падобна, я быў для яе сэнсам жыцця. Вось яе і ўспрымаў як адзінага роднага чалавека. Са шкадаваннем успамінаю, толькі адзіны раз мне ўдалося зрабіць для яе нешта карыснае. Калі нас, трох хлопцаў, пераводзілі ў рамеснае вучылішча, то начальства дзіцячага дома расшчодрылася. Усім тром далі па добраму ваўнянаму швэдру чырвонага колеру. Калі бабуля мяне наведала, мне з цяжкасцю ўдалося ўгаварыць яе ўзяць швэдар. Прыйшлося злёгку зманіць, маўляў, у мяне яшчэ ёсць.

### У дзіцячым доме жылі, як у акварыуме

Мы ў дзіцячым доме былі нібы ў нейкім акварыуме, адлучаныя плотам ад паўсядзённага, рэальнага жыцця краіны. Калі чалавек выхоўваецца ў сям'і, то ў школе яго замбуюць «мантрамі»: савецкая ўлада, рэвалюцыя, наперад да камунізму, у светлую будучыню.

А вяртаецца дадому — чуе ад бацькоў зусім іншае: нізкая зарплата, як дажыць да заробку, зноў у краме няма таго ці іншага; а вось дырэктар прадпрыемства або начальнік цэха новую машыну купіў, сакратар парткама або гаркама новую дачу сабе будуе або кватэру вялікую атрымаў. І ўсё гэта паўшэптам, каб суседзі не пачулі. Атрымліваецца нейкая раздвоенасць свядомасці. З аднаго боку дзіця чуе адно, а з другога — наадварот.

Чалавек паступова прызвычайваецца жыць у межах двайной маралі. Засвойвае гэты стан як натуральны і бяспечны. У дзіцячым доме выхавальнікі-выкладчыкі з дзецьмі ніколі не гавораць адкрыта. «Выхаванне» — у рамках дзяржпрапаганды — трывалае замбаванне. А потым чалавек выходзіць у рэальны свет. Пачынае працаваць і жыць самастойна.

Вось тут і атрымліваецца рэзкі дысананс паміж светам «ідэальным» і рэальным, да якога чалавек псіхалагічна не гатовы. І гэта адрозненне ўспрымаецца востра, стварае ўнутраны канфлікт. Гэта прарываецца вонкі, і чалавек спрабуе неяк абараняцца, спрабуе гэты разрыў ліквідаваць. Пры ўмове, што ён унутрана сумленны і не схільны да абразлівых, зняважлівых да годнасці кампрамісаў. Гэта адзін з матываў прыходу да дысідэнцтва: імкненню супрацьўляцца любому фальшу.

### Вяртанне ў Бабруйск

У 70-я гады ў Бабруйск я прыехаў не ў нейкі абстрактны горад, а вярнуўся ў горад свайго дзяцінства, дзе я нарадзіўся і дзе мае родныя, як той казаў, з роду ў род, жылі. Або паблізу, у вёсках, як мая бабуля. Вядома, пасля многіх гадоў адсутнасці я шукаў сляды, якія нагадвалі пра мінулае, нейкія асацыяцыі з дзяцінствам, шчыра кажучы, тое, што і называецца Радзімай, — роднае, блізкае. Ва ўсім стараўся гэта ўбачыць: што змянілася, а што захавалася?

Калі зайшоў на тэрыторыю дзіцячага дома, там заставаўся ўжо напаўразвалены будынак. Мяне нават спыталі:

— А вы хто? Вы наконт вывазу?

— У сэнсе? Ды не, — кажу, — я проста выпадкова.

А я быў у капелюшы, у мяне была такая бародка з бакенбардамі, падстрыжаная на манер канадскага шкіпера. Ведаеце, як гэтыя «марскія ваўкі» хадзілі з такімі бакенбардамі? Выгляд для правінцыі нязвыклы. І яшчэ ў руках у мяне быў партфель. А чалавек з партфелем звычайна ўспрымаецца як чыноўнік, начальства якое-небудзь. З бародкай незразумелай, у капелюшы, з партфелем. Таму і ўзніклі да мяне пытанні.

Пахадзіў, паглядзеў. Залез праз пралом у дом, які ў дзяцінстве здаваўся аграмадным. З узростам усё па-іншаму ўспрымаецца. Спальня: хлопчыкі, дзяўчынкі, усё аблазіў. Класы для хатніх работ, куды мы збягалі з заняткаў у школе або хаваліся праз акенца ад выхавальнікаў для сваіх гульняў. Агледзеў двор. Праводзіліся такія піянерскія, выхаваўчыя мерапрыемствы: пасадка дрэў, кветнікаў.

Памятаецца, я таксама пасадзіў елачку на алеі. Павінна была б яна вялікая ўжо вырасці за гэтыя гады. Гляджу — ніякай алеі няма. Я так і напісаў у

# Фельчар СІЗА асуджаны. Што засталося

Павел САПЕЛКА

**Уступіў у законную сілу прысуд па «справе Ігара Пцічкіна». Гэта справа за тры гады стала «справай фельчара Крылова». Праваабаронцы, якія, па версіі адваката Крылова, «у нас у краіне знаходзяцца на фінансаванні ЦРУ», разам з сям'ёй Ігара дамагліся амаль немагчымага.**




### Справа Пцічкіна. Справа Крылова

Справа, безумоўна, зацягнулася, і ў «Вясну» родныя Пцічкіна патрапілі тады, калі Следчы камітэт адгукнуўся прэс-рэлізам аб натуральных прычынах смерці зняволенага і яго нібыта даказанай супрацьпраўнай дзейнасці, а абезгалоўленая «Платформа», па сутнасці, адмовіла ў дапамозе родным «наркамана»; Андрэй Бандарэнка, які зрабіў неацэнна многа для таго, каб пра гібель Пцічкіна даведаліся не толькі ў нас у краіне, да таго часу ўжо быў арыштаваны.

Пакуль у судзе разглядалі справу Крылова, праваабаронцы «Вясны» стараліся ўстрымацца ад любога роду каментараў. Нялёгкая задача — раскруціць махавік следства і правасуддзя, — была вырашана. Адзін факт таго, што смерць у СІЗА расследавана, а справу накіравалі ў суд, пакідаў надзею на змяненне стаўлення да людзей за кратамі. Далей дзейнічаў прынцып прэзумпцыі невінаватасці, які праваабаронцы, у адрозненне ад дзяржавы і яе органаў, прывыклі паважаць.

Мы толькі папраўлялі часам тых, хто называў гэтую справу «справай фельчара Крылова» — Крылоў, у першую чаргу, афіцэр МУС. І перaслед Крылова, на думку «Вясны», павінен быў стаць пераследам афіцэра МУС за жорсткае абыходжанне са зняволеным.

Прысуд уступіў у сілу. Праблемы няма? Ёсць. І гэтыя праблемы прысудам толькі падкрэслены і выкрытыя. Ці будуць зробленыя высновы?

### Бесчалавечнае, прыніжаючае годнасць абыходжанне

У следчых ізалятарах, як і ва ўсёй пенітэнцыярнай сістэме, не створана здавальняючага ўзроўню медыцынскага абследавання для паступаючых зняволеных, дыягностыкі іх стану і лячэння выяўленых захворванняў.

Зняволеныя бяссільныя перад жорсткім абыходжаннем; няма механізму папярэджання катаванняў і прыроўненага да іх жорсткага, бесчалавечнага, зневажальнага абыходжання. Няма нацыянальнага механізму працідзеяння катаванням, які, будучы незалежным органам, спыніць любыя факты забароненага звароту і створыць бяспечныя ўмовы знаходжання зняволенага і яго свабоду ад ціску з боку адміністрацыі турмы на першай раскладванні скаргі. Няма механізмаў, падобных інстытуту амбудсмэна, супрацоўнікі якога маюць права бесперашкоднага і без папярэджання наведвання месцаў пазбаўлення волі.

### Аб'ектыўнае расследаванне

Расследаванне справы праводзілася аж да канца вясны 2016 года Следчым камітэтам, які, на задуму заканадаўцаў, павінен быць незалежным органам крымінальнага пераследу

# супрацiўляцца любому фальшу

сваім нарысе «Скрадзеная Бацькаўшчына»: «памяць сцёртая бульдозерам». Гэта значыць, там ужо ўсё даўно знішчылі. А недалёка быў пабудаваны інтэрнат — двухпавярховы, мураваны. Інакш кажучы, нічога не знайшоў, што было б звязана з маімі дзіцячымі ўспамінамі. Толькі гэты паўразбураны барачнага тыпу драўляны дом пад знос.

Пайшоў далей па горадзе. Сабор, які калісьці ўражваў мяне, таксама знеслі. Быў касцёл каталіцкі, вялікі. На месцы касцёла ўзвялі будынак нейкага будтрэста. Падышоў да пераезду па шляху, які каля мармеладнай фабрыкі праходзіў. У дзіцячым доме аднойчы нас вадзілі туды на экскурсію. Пасля экскурсіі ў многіх здарылася нястраўнасць — занадта актыўна дэгуставалі цукеркі.

### Сцеражыся цягніка!

На пераездзе па шляху ад мармеладнай фабрыкі слупок быў з папераджальным надпісам на шчыце: «Сцеражыся цягніка!». Ніжэй пераклад на рускай мове. Часта там бываў і надпіс па-беларуску памятаў. Па звычцы гляну ў на шыльду, а там па-руску: «Берегись поезда!» Беларускі надпіс знік. І гэта мяне моцна закранула. Бо я ж у сваёй краіне знаходжуся! І хто мае права маю родную мову замяняць чужой? А ўсё таму, што нас пазбавілі сваёй дзяржаўнасці.

Імперская ўлада ў Крамлі навязвае свае стэрэатыпы паводзін, знішчае нашу культуру, мову з мэтайператварыць нас у пакорлівы, вялікі статак рабоў. Каб прымушаць служыць чужым інтарэсам — адпраўляць нашых хлопцаў на войны ў Карэю, В'етнам, Афрыку ці яшчэ куды, у імя імперскіх інтарэсаў. А нам гэта трэба?! Так да мяне прыйшло глыбокае ўсведамленне сваёй нацыянальнай годнасці.

І я не мог прамаўчаць. Вырашыў свае разважанні выкласці, каб не толькі мае землякі прызадумаліся над паняццем, што такое Радзіма. І ў той жа час хацеў выказаць сваё стаўленне да гэтага рэжыму. Каб не было ва ўлады ілюзій, што сваёй хлуснёй, прапагандай яны здольныя ўсіх замбаваць. Каб яны ўсвядомілі, што рана ці позна калі не ім, то іх нашчадкам давядзецца расплачвацца за злачынствы, калі не фізічна, то маральна. Такая была перадгісторыя стварэння майго сціплага нарысу «Скрадзеная Радзіма». Мне ўдалося перадаць яго ў заходнюю прэсу.

### Праца на электрастанцыі

...У Бабруйску пасля начлегу на вакзале стаў прыглядацца да розных аб'яваў. Паколькі вызваліўся з псіхушкі, то зрабіў некаторыя праўкі ў дакументах, каб схаваць гэты факт біяграфіі. Тады яшчэ запісы рабіліся атрамантам. Зводзіць іх, выпраўляць не складала адмысловай працы. Што я і прарабіў. Бо той, хто вызваліўся з псіхушкі, лічыцца інвалідам. Практычна пазбаўлены ўсіх правоў.

Вырашыўшы праблему з дакументамі, уладкаваўся электраманцёрам на электрастанцыю, ЦЭЦ-2. А з дыягназам «псіх» мяне б на гарматны стрэл не падпусцілі да гэтай працы.

Амаль адразу пачаліся праблемы. Мае паводзіны былі такімі, як і да арышту. Катэгарычна адмаўляўся ад усялякага ўдзелу ў так званым грамадскім жыцці: суботнікі, нядзельнікі ды іншае. І ў рабочым асяроддзі не саромеўся выказваць крытычнае стаўленне да ўлады, да ўсіх падзей у краіне і свеце. І тут глядзеўся першы час як белая варона.

Памятаецца, адзін камандзіраваны з Мінска наладчык, камуніст з пяцігадовым стажам, прыйшоў з прэтэнзіяй да начальніка цэха. Як мне пазней распавялі, ён з абурэннем спытаў: «Як вы маглі гэтага нягодніка Кукабаку прыняць на працу?! Ён адкрыты вораг савецкай улады, такім не месца ў калектыве». А начальнік цэха апраўдваўся, маўляў, сам нядаўна на гэтай пасадзе. Вось такая была калізія. Натуральна, пра мяне тут жа далажылі ў КДБ. А там пачалі наводзіць даведкі, рабіць запыты.

Але праходзіў час — і стаўленне рабочых да мяне пачало змяняцца. І зноў-такі з прычыны маіх паводзін. Хлопец з суседняга пакоя ў інтэрнаце выпраўляў сваю дзяўчыну на вакзал, спазніўся і прыйшоў да 12-й гадзіны. Камендант адмовілася яго ўпусціць. Маўляў, рэжым ёсць рэжым, калі спазніўся — начуй, дзе хочаш. Тады ён па пажарнай лесвіцы ўскараскаўся і праз акенца трапіў у свой пакой.

Камендантка ўсё гэта назірала, паднялася на паверх і стала патрабаваць, каб хлопец пакінуў інтэрнат. Па камплекцыі жанчына здаровая, так біла ў дзверы, што пабудзіла жыхароў, які паспелі ўжо заснуць. А праз пару дзён — загад аб высяленні хлопца з інтэрната за парушэнне рэжыму пражывання.

Здавалася, шараговы выпадак: каму якая справа да нечага канфлікту з камендантам. Але мяне самаўпраўства каменданткі абурыла. Сеў і адразу напісаў ліст, кшталту фельетона, у сатырычны часопіс «Вожык». Акрамя таго, і ў цэху вельмі з'едліва абмалёваў паводзіны каменданта. Маім лістом у Мінску зацікавіліся і даслалі карэспандэнта для высвятлення сітуацыі.



Сустрэча з Аляксандрам Леаненкам, у абарону якога Міхась Кукабака пісаў ліст у часопіс «Вожык». Бабруйск, 23 красавіка 2014 года. Фота Сяргея Балая

Але, як тады было прынята, журналіст спачатку накіраваўся ў партком на размову. Там, натуральна, ахарактарызавалі Кукабаку як злоснага пасквілянта, які нават на сцяне ў сябе ў інтэрнаце павесіў фотаздымкі вядомых антысавецчыкаў: генерала Грыгарэнкі, акадэміка Сахарава. Карэспандэнт з'ехаў, нават не пагутарыўшы са мной. Аднак загад адмянілі і хлопца пакінулі ў спакоі.

Праз 38 гадоў, пабываўшы ў Бабруйску, я сустрэўся з тым хлопцам Леаненкам. Жыццярадасны, поўны сіл і здароўя. Успомнілі з гумарам пра мінулыя падзеі.

### Сяржант міліцыі Пенязь

Неяк маім суседам па пакоі ў інтэрнаце апынуўся міліцыянт — сяржант міліцыі па прозвішчы Пенязь. Мы з ім досыць хутка знайшлі агульную мову. Там нейкі скандал быў у інтэрнаце. Хуліганы біліся на калідоры, і ён вырашыў іх уціхамірыць. Я кажу яму: «Ты не саромейся, скажы мне. Я супраць хуліганства і заўсёды дапамагу табе, калі трэба будзе».

Адразу ўсталяваліся нармальныя адносіны. Потым я яму распавёў, што сядзеў, быў у зняволенні. Але, можа быць, ён і сам ведаў. Нездарма ж мяне з міліцыянтам у адзін пакой пасялілі. У сябе на сцяне я павесіў Дэкларацыю правоў чалавека, патлумачыў, што гэта за дакумент. Паказаў яму часопіс «Кур'ер» ЮНЕСКА. Маўляў, гэта не якая-небудзь варожая літаратура гэты часопіс. А яму над ложкам, павесіў разварот з часопіса «Новое время» — сцягі ўсіх краін свету.

«Вось, — кажу, — будзеш ведаць, у якой краіне які сцяг».

Дайшло да таго, што: «Слухай — кажу, — у вас жа ёсць, напэўна, друкарская машынка ў аддзяленні. У мяне, як бачыш, няма. Вось добры артыкул знайшоў, надрукуеш некалькі асобнікаў?» Натуральна, імя аўтара яму не паведаміў. Гэта быў артыкул Салжаніцына «Жыць не па хлусні». І ў вольны час або ў начное дзяжурства ён для мяне друкаваў розныя самвыдатаўскія матэрыялы, нават не падазраючы пра гэта.

Пасля майго арышту КДБ з ног збілася, правярала па горадзе машынкі: «Дзе Кукабака мог капіяваць?». Ім у галаву не прыходзіла, што друкавалі ў аддзяленні міліцыі. Бо тады друкарскія машынкі рэгістраваліся, каб можна было адбіткі параўноўваць. Такая пацешная сітуацыя ўзнікла.

**Падрыхтоўка тэксту:**
**Паліна Сцепаненка**

# за кадрам?

супрацоўнікаў МУС. Незалежны орган не спрацаваў і паказаў сваю поўную бездапаможнасць, заангажаванасць і няздольнасць актыўна выбудоўваць схему расследавання, якая б улічвала асаблівасці ўмоў пенітэнцыярных устаноў. Пры гэтым следства вялося павольна, не раз сыходзіла ў бок ад праблемы жорсткага абыходжання з загінулым.

Генеральная пракуратура, якая давяла гэтую справу да суду, таксама не блішчэла яркімі працэсуальнымі рашэннямі: за ўвесь перыяд расследавання ад выканання абавязкаў не была адлучаная ні адна службовая асоба. Захоўвалі свае магчымасці ўплываць на сведак усе кіраўнікі СІЗА і ДВП, працягваў сваю службу ў медчастцы і Крылоў.

Той факт, што прыжыццёва Пцічкін быў як мінімум тройчы збіты ў СІЗА, прычым адна група цялесных пашкоджанняў, не звязаных з аказаннем медыцынскай дапамогі, была прычыненая яму ў перыяд, калі ён звязаным ляжаў на канапе медчасткі, пракуратуру не зацікавіла, і па гэтым факце ўжо было некалькі спробаў пахаваць праблему на ўзроўні ўчастковага інспектара МУС.

Так што з поўнай упэўненасцю можна заявіць, што якіх-небудзь аб'ектыўных надзейных механізмаў расследавання катаванняў і жорсткага, бесчалавечнага абыходжання ў Беларусі не створана. Пракуратура і Следчы камітэт такімі органамі, на жаль, не з'яўляюцца.

### Працэсуальныя правы пацярпелых

Пацярпелай — маці загінулага Жане Пцічкінай — пад пагрозай крымінальнага пакарання было забаронена разгалошваць матэрыялы следства; гэта абмежаванне захавалася аж да разгляду справы судом, калі высветлілася, што ніякіх звестак, якія абгрунтавана маглі б ахоўвацца законам ад разгалошвання, у матэрыялах справы не было. Адначасова прэс-служба Следчага камітэта, не саромеючыся, ганьбіла памяць сумнеўна даказанымі і тэндэнцыйна пададзенымі звесткамі.

Такім чынам, няма механізму абароны правоў пацярпелых, у тым ліку — сваякоў асоб, якія загінулі ў выніку жорсткага абыходжання.

Цяжка ўявіць, як бы склаўся лёс расследавання, каб побач з сям'ёй Пцічкіна не апынуліся арганізацыі, якія хоць і «знаходзяцца на фінансаванні ЦРУ», але абараняюць і адстойваюць правы грамадзянаў нашай краіны.

### Крымінальны закон

У Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь замацавана 344 дзеянні, якія цягнуць крымінальную адказнасць. Але беларускі закон не карае за жорсткае, бесчалавечнае, прыніжаючае годнасць абыходжанне, як гэта прадугледжана Канвенцыяй супраць катаванняў. Таму з усёй разнастайнасці складаў крымінальных злачынстваў быў выбраны той, які карае за неасцярожнае злачынства медыцынскага работніка. Гэта значыць, Крылоў пакараны не за тое, што ў якасці афіцэра МУС, маючы адпаведныя паўнамоцтвы па службе, свядома арганізаваў жорсткае, бесчалавечнае абыходжанне ў апошнія ў жыцці Ігара Пцічкіна суткі, а за невыкананне ці неналежнае выкананне свайго медыцынскага абавязку.

### Прададзены Крылоў

Менавіта так. Сістэма кінула Крылова, аддала яго, здрадзіла таму, хто гуляў строга па правілах гэтай сістэмы, разлічваючы, відавочна, на адпаведную абарону сістэмы. Адкупілася ім ад грамадскай думкі. Адкупілася яго зламаным лёсам ад пацярпелых. І, мяркую, не толькі. Думаю, што «фельчарам Крыловым» дзяржава будзе адкупляцца і ад прэтэнзій міжнародных арганізацый — ААН і яго органаў; выпадак з Крыловым будзе ярка падавацца як узор бескампраміснай барацьбы дзяржавы з жорсткім абыходжаннем у турмах. Спехам асвоіўшы папулярную ў наднацыянальных колах рыторыку пра «нулявую талерантнасць», такім выпадкам жорсткага абыходжання можна ўпрыгожваць любую справаздачу ці даклад згадваннем аб асуджэнні Крылова.

Толькі гэта ўсё будзе замест рэальных крокаў па выключэнні катаванняў і жорсткага абыходжання і стварэння механізму процідзеяння катаванням і жорсткаму абыходжанню. Хоць, хто ведае.

Калі ўладам захочацца ўзмацніць сваю пазіцыю па апісаным пытанні, нагадаю, што праваабаронцы «Вясны» суправаджаюць яшчэ не расследаваныя належным чынам справы па факце гібелі ў Жодзінскай турме Алега Багданава і Ігара Барбашынскага, збітага і зняважанага міліцыянтамі Аляксандра Харуты, беспадстаўна збітых пры затрыманні спецпадраздзяленнямі МУС Дзмітрыя Серады і Аляксандра Гурэева, а таксама непаўналетняга юнака, падвергнутага гвалту ў СІЗА г. Гомеля. І гэты пералік можна працягваць. Справа аб гібелі Аляксандра Акуліча ў ІЧУ Светлагорска так і засталася без належнай прававой ацэнкі; паведамленне пра яго накіравана ў Камітэт па правах чалавека ААН.

**spring96.org**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. Здай долары — атрымай помнік

У Турцыі абвешчаная кампанія за больш шырокае ўжыванне ў эканоміцы мясцовай валюты — турэцкай ліры. Прэзідэнт Турцыі Эрдаган заклікаў землякоў тэрмінова перавесці ўсе наяўныя долары і еўра ў турэцкія ліры або золата. Тым, хто зробіць такі ўчынак, будуць нават даваць нейкія прызы — напрыклад, некаторыя банкі гатовыя выдаць вялікі пакунак кавы. Далёка пайшлі ў горадзе Бурса, дзе гатовыя ставіць на магілы тых, хто перавёў у ліры больш за дзве тысячы долараў, бясплатныя надмагільныя помнікі. Яшчэ цікавейшую прапанову зрабіла дырэкцыя ўніверсітэта ў горадзе Ван. Той, хто абмяняе 500 тысяч еўра на ліры, будзе ўвекавечаны ў гісторыі турэцкай адукацыі: яго імем назавуць універсітэцкі амфітэатр. Адначасова ўсім фінансавым інстытутам краіны рэкамендуецца забараніць разлікі ў доларах. Нават цэнтральныя біржы цяпер павінны праводзіць усе фінансавыя аперацыі ў лірах. Калі верыць Эрдагану, пераход у разліках на ліры дапаможа надаць прэстыж турэцкай валюце і справакаваць інвестыцыйны бум у краіну.

**Паводле турэцкай прэсы**

### РАСІЯ. Чырвоная кніга людзей

Савет па правах чалавека (СПЧ) падрыхтаваў дакумент, які плануюць перадаць у Адміністрацыю прэзідэнта краіны. Дакумент тычыцца праблем малых народаў Расіі і ўтрымлівае заклік да Уладзіміра Пуціна выратаваць ад вымірання некалькі моваў і народаў праз стварэнне так званай «Чырвонай кнігі народаў Расіі». Усяго праваабаронцы налічылі ў Расіі 156 моваў, з якіх 7 знаходзяцца пад непасрэднай пагрозай знікнення. Тое ж тычыцца і дзесяці малых этнасаў. Выратаваць выміраючыя народы прапануецца перш за ўсё за кошт увядзення рэальнага двухмоўя ў аўтаноміях, дзе зараз толькі 47 працэнтаў прадстаўнікоў карэннага народа вывучаюць родную мову. Пуціна заклікаюць заняцца абаронай дыялектаў, якія таксама — помнік этнічнай разнастайнасці. У дакуменце ёсць і незвычайны пункт пра адраджэнне народаў, якія зніклі. Прапануецца заняцца пошукамі людзей, «генетычна роднасных прадстаўнікам дадзенага народа да шостага калена», усталяваць для іх стыпендыі тэрмінам на 20 гадоў для вывучэння роднай мовы, гісторыі і культуры. Таксама канстатуецца, што адзін з чыннікаў вымірання народаў Поўначы — алкаголь. Таму рэкамендуецца ўвесці прэмію для прадстаўнікоў паўночных народаў, якія адмовіліся ад гарэлкі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Іншаземка ў Елісейскім палацы?

Сёння ў Францыі дамінуе думка, што будучым гаспадаром Елісейскага палацу дакладна стане Франсуа Фіён — пераможца праймерыз у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ад правацэнтрысцкіх рэспубліканцаў. Іншыя кандыдаты на пасаду гаранта Пятай Рэспублікі падаюцца ўсім больш слабымі. Між тым, у іміджы Фіёна знайшлі слабае месца. Гэта яго жонка Пенелопа. Справа ў тым, што яна не француженка, а валійка. Яна нарадзілася ў Уэльсе ў 1956-м, вучылася там на юрыста і пазнаёмілася з будучым мужам падчас курсаў у Францыі. Пенелопу ў некім сэнсе можна лічыць эталонам жонкі палітыка. Мадам Фіён выхоўвае пяць дзяцей, прыняла каталіцкую веру, як яе муж, з'яўляецца дэпутатам мясцовага савету і гэтак далей. Тым не менш, сама перспектыва першай лэдзі, якая не мае французскіх каранёў, шмат каму ў краіне бачыцца нонсенсам. Акрамя таго Пенелопа неяк на публіцы прызналася, што французы падаюцца ёй дзівакамі. Такія заявы некаторыя знаходзяць скандальнымі. Іншыя ўзгадваюць, што падчас прэм'ерства Франсуа Фіёна яго жонка мела таксама высокі афіцыйны статус і, будучы жонкай прэм'ера, праявіла сябе вельмі прыстойна і салідна.

**Паводле французскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Руская мова дзяржаўнай не будзе

Міністр адукацыі і навукі Арменіі Лявон Мкртчан першы пракаментаваў заяву пасла па асобых даручэннях МЗС Расіі Элеаноры Мітрафанавай пра тое, што «руская мова павінна атрымаць заканадаўчы статус у краінах былога СССР». Мкртчан выступіў супраць змены статусу рускай мовы ў рэспубліцы. Ён заявіў журналістам, што руская мова ў Арменіі мае аднолькавы статус з іншымі замежнымі мовамі, «і гэта не падлягае змяненню». На думку экспертаў, такая ж рэакцыя будзе і ў іншых краінах экс-СССР, дзе руская мова не мае афіцыйнага статусу. Руская мова паўсюдна шырока ўжываецца і вывучаецца (у той жа Арменіі гэта абавязковы прадмет у агульнаадукацыйных школах, пачынаючы з другога года навучання), аднак пытанне пра наданне ёй афіцыйнага статусу будзе выклікаць у большасці негатыўную рэакцыю, паколькі ўспрымаецца як замах на нацыянальную ідэнтычнасць. Нагадаем, што сёння руская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай у Расіі і Беларусі, афіцыйнай мовай у Казахстане і Кыргызстане. Мова Пушкіна з'яўляецца таксама афіцыйнай у непрызнаных дзяржавах — Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Прыднястроўі, а таксама ў аўтаномнай Гагаузіі (Малдова).

**Паводле армянскай прэсы**



Фота www.TruskavetsKurort.ua

# Краіна без тытуню

Алег НОВІКАЎ

**Мінуў месяц, як туркменскі прэзідэнт Гурбангулы Бердымухамедаў фактычна забараніў у краіне продаж тытуню. Што змянілася за час гераічнай барацьбы з нікацінам?**

Калі не лічыць, што загад Бердымухамедава больш чым удвая ўзняў кошты на цыгарэты (пачак «Marlboro» падаражэў з 8,5 да 20 долараў), знешне змянілася няшмат. Проста таму, што антытытунёвы крыжовы паход быў пачаты яшчэ два гады таму, і за гэты час тытунь даўно стаў дэфіцытам. Пры гэтым дасюль не зразумела, чаму менавіта тытунёвай тэме ўлада прысвячае столькі ўвагі. Туркмены не належаць да нацый, дзе тытунь пакутуюць на залежнасць ад цыгарэт. Гэта самы нізкі нацыянальны паказчык ва ўсім свеце.

Так ці інакш, кампанія стартавала, і спачатку, як і бывае ў аўтарытарных краінах, абмяжавалася выключна прапагандай. Сапраўдная «жэсць» пачалася ў пачатку мінулага года, калі на пасяджэнні Саўбезу (!) Бердымухамедаў «перапатрахнуў» некалькіх чыноўнікаў за паслабленне кантролю над тытунёвым рынкам і прыгразіў ім адстаўкай. Каталог тытунёвых вырабаў у крамах адразу зменшыўся. У сярэдзіне гэтага года манаполія на іх рэалізацыю была ўвогуле цалкам перададзеная дзяржаўным крамам.

Дарэчы, і там знайсці тытунь было цяжка. Як следства, час ад часу каля табачных крамаў выбухалі масавыя бойкі за права набыць цыгарэты. Эмоцыі давялося гасіць выключна з дапамогай паліцыі. Пры гэтым паліцыянтам таксама часцяком даставалася ад курыльшчыкаў.

Завоблачныя кошты на тытунь прывялі да адраджэння такой практыкі, як продаж цыгарэт паштучна. Кожная цыгарэта, што патаемна прадаецца ў прыватных крамах, каштуе 4 маната (прыкладна $1,2). У выніку падаражання цыгарэт некаторыя людзі набываюць цыгарэту нават «на адну зацяжку», у складчыну.

Яшчэ ў мінулым годзе ў краіне паўстаў чорны рынак тытуню, дзе можна набыць такі даўно забыты рарытэт, як «махорка». Звычайная такса — адзін манат за шклянку махоркі. Можна набыць яе і ў форме гатовых цыгарак, аднак ужо за тры манаты.

Калі верыць апазіцыйным медыя, гандаль махоркай зараз — адна з самых квітнеючых бізнес-сфераў. Паколькі ніякіх стандартаў вырабу махоркі няма, туды могуць дадаваць любы кампанент, уключаючы лісты дрэваў ды іншыя расліны. У сеціве шмат скаргаў на тое, што набытая з рук махорка кепска ўплывае на здароўе і ледзь не адразу пасля палення выклікае праблемы з дыханнем.

Махорачны бізнес квітнее, нягледзячы на патэнцыйныя рызыкі. Пры выяўленні вытворчасці самапальнага тытуню ўлады спальваюць прадукцыю і накладаюць вялікі штраф. Чакае штраф і тых, хто паспрабуе правезці ў краіну вялікую партыю цыгарэт. Калі ў багажы аказваецца больш за два пачкі, дык пасажыра, кажуць, штрафуюць на 500 манатаў ($143).

Цікава, што закладнікам буму на махорку стала старажытная туркменская традыцыя ўжываць нас — тая ж махорка, але «жавальная», якую кладуць пад язык. Вытворчасць насу (для яго патрэбны якасны тытунёвы прадукт) не прыносіць вялікага гешэфту. Значна прасцей і выгадней знайсці пакупнікоў на сумесь тытуню з нейкімі незразумелымі дадаткамі.

Нават у самой WHO яўна не ў сваёй талерцы ад таго, што робіцца ў Туркменістане. Яшчэ ў мінулым годзе супрацоўнікі арганізацыі канстатавалі, што пазітыўная антытытунёвая статыстыка ў гэтай краіне дасягаецца не тлумачальна-прафілактычнай працай сярод насельніцтва, а з дапамогай забаронных мер і ўзмацнення жорсткасці пакарання ў дачыненні да ўсіх, хто прадае тытунёвыя вырабы і хто не можа пазбавіцца ад гэтай шкоднай звычкі.

Напэўна, з улікам падобнай крытыкі, як паведамляе форум сайта «Хроніка Туркменістана», мясцовыя ўлады ўсё ж вырашылі праявіць клопат аб правах курцоў. Чакаецца, што тытунёвая прадукцыя па фіксаванай цане будзе адпускацца па талонах з разліку тры пачкі ў месяц на чалавека.

Цікава, што антытытунёвыя мерапрыемствы Ашхабада спрыялі фармаванню пазітыўнага іміджу рэжыму Бердымухамедава сярод часткі жыхароў краін СНД. У тым ліку на беларускіх інтэрнэт-форумах можна знайсці шмат кампліментаў на адрас аўтараў туркменскай кампаніі супраць тытунёвай залежнасці. Падаецца, гэта заўважылі і мясцовыя палітыкі. Нядаўна расійскі сенатар Ігар Чарнышоў унёс у Дзярждуму чарговыя — больш жорсткія — папраўкі ў дзеючае антытытунёвае заканадаўства. На думку сенатара, у дадатак да забароны «курылак» унутры памяшканняў расіянам трэба забараніць паліць і на вуліцы. Праўда, ініцыятар паправак на першы час прапануе абмежаваць забароненую для курцоў вулічную зону 15 метрамі ад грамадскіх будынкаў.

Што тычыцца Туркменістана, дык будучыня цяперашняй кампаніі, безумоўна, залежыць ад аднаго чалавека — кіраўніка дзяржавы Гурбангулы Бердымухамедава, праз асабістыя бзікі якога яна, відавочна, і пачалася. Калі ў Бердымухамедава імпэт не пройдзе, не выключана, што Туркменістан сапраўды стане першай у свеце краінай, якая цалкам знішчыла курэнне. Рэпрэсіўны апарат для выканання такой задачы існуе. Аднак таксама не выключана, што ў туркменскага гаранта з'явіцца новая слабасць, і тады ў гэтай сферы пачнецца нейкая нармалізацыя, пошук балансу паміж дзяржаўнай палітыкай і чорным рынкам. Дарэчы, днямі туркменскія ўлады заняліся рэгламентацыяй школьнай вопраткі. Можа, Бердымухамедаў забудзецца пра тытунь і вырашыць падацца ў мадэльеры?

# Колькі гадоў трэба прэзідэнту?

Алег НОВІКАЎ


Фота www.secrets-world.com

**У свеце хапае дзяржаваў, дзе ёсць пасады прэзідэнта. Як правіла, іх кадэнцыя складае 4–5 гадоў. Прэзідэнцкі тэрмін у 7 гадоў — у Камеруне, Экватарыяльнай Гвінеі, Габоне, Ізраілі, Ірландыі, Італіі. Шэсць гадоў цягнуць лямку прэзідэнты ў Ліберыі, Кыргызстане, Ліване, Філіпінах, Сінгапуры, Таджыкістане, Узбекістане, Аўстрыі, Фінляндыі, Расіі, Мексіцы, Венесуэле.**

Дамінуючая практыка прэзідэнцкага тэрміну 4 або 5 гадоў тлумачыцца арыентацыяй на паспяховы амерыканскі досвед. Чатырохгадовы тэрмін прэзідэнцкага праўлення быў «вынайдзены» ў 1787 годзе Канстытуцыйнай Асамблеяй — асаблівым органам, які напісаў тэкст Асноўнага закона ЗША.

З ідэалагічнага пункту гледжання, стваральнікі Канстытуцыі ЗША арыентаваліся на старажытныя дэмакратыі Грэцыі і Рымскую Рэспубліку, у якіх рэгулярная ратацыя ўладаў была звычайнай практыкай. У паўночнаамерыканскіх калоніях таксама існавалі падобныя правілы (першы закон такога кшталту з'явіўся ў Пенсільваніі ў 1682 годзе). Аднак пры гэтым існавала думка, што занадта кароткі тэрмін не дасць прэзідэнту магчымасці паспяхова выконваць свае абавязкі. Пры гэтым міжнародных прэцэдэнтаў, якія маглі б паслужыць узорам для перайманія, напрыканцы XVIII стагоддзя не было.

Першапачаткова дэлегаты Асамблеі пагадзіліся з тым, што тэрмін прэзідэнцтва павінен складаць сем гадоў. У працэсе дэбатаў тэрмін быў скарочаны да шасці, у выніку з'явіўся цяперашні варыянт — чатыры гады. Праўда, спачатку адна і тая ж асоба магла абірацца на прэзідэнцкую пасаду неабмежаваную колькасць разоў. Толькі ў 1947 годзе была прынятая 22-я папраўка да Канстытуцыі ЗША, якая забараніла займаць пасаду кіраўніка дзяржавы больш за два тэрміны (яна была ратыфікаваная ў 1951 годзе і тады ж набыла моц).

Не ўсе пагадзіліся з гэтай ідэяй. У Злучаных Штатах існуе рух за карэкцыю прэзідэнцкага тэрміна, праўда, для таго, каб адна і тая ж асоба заставалася пры ўладзе ў суме менш часу. Справа ў тым, што за акіянам склалася негалосная традыцыя, калі абраны прэзідэнт абавязкова ідзе на другі тэрмін і, як правіла (у 68 працэнтах выпадкаў), перамагае. Краіна, як лічаць некаторыя, толькі губляе ад такой з'явы, паколькі падчас другой кадэнцыі прэзідэнты не такія актыўныя.

У якасці выхаду прапануецца абіраць прэзідэнта на 6 гадоў, аднак без права пераабрання. «Адсутнасць блізкай кампаніі па пераабранні можа натхніць будучых прэзідэнтаў быць больш моцнымі лідарамі і з большай гатоўнасцю прымаць жорсткія, непапулярныя рашэнні, якія маглі б палепшыць наш нацыянальны дабрабыт у доўгатэрміновай перспектыве. І ў любым выпадку, шэсць бесперапынных гадоў будуць эквівалентам двух чатырохгадовых тэрмінаў», — сцвярджае выданне «The Daily beast».

Сфармаваўся лагер крытыкаў 4-гадовага прэзідэнцкага тэрміна і ў Еўропе. Ужо Канстытуцыя Другой Французскай Рэспублікі з папраўкамі Напалеона Трэцяга (1852 г.) утрымлівала пункт пра 10-гадовую кадэнцыю прэзідэнта (у першапачатковай рэдакцыі прэзідэнт мог займаць пасаду 4 гады). Прыкладна тады і былі сфармуляваныя асноўныя аргументы за больш доўгі прэзідэнцкі тэрмін. Лічылася, што гэта гарантуе краіне палітычную стабільнасць.

Па сутнасці, на той жа тэзіс абапіраўся і Шарль Дэ Голь, калі прапанаваў свой варыянт Канстытуцыі Пятай Рэспублікі ў 1958 годзе. Прэзідэнцкі тэрмін тады быў вызначаны ў 7 гадоў. Дарэчы, французскае грамадства сустрэла такую прапанову практычна «на ўра», паколькі за часы алжырскага крызісу стамілася ад палітычных катаклізмаў і жадала моцнай выканаўчай улады. Праўда, падчас нармалізацыі сітуацыі думкі ў краіне хутка змяніліся. Ужо ў сярэдзіне 1970-х лічылася, што сем гадоў — гэта зашмат. У выніку ў 2002 годзе Жак Шырак пагадзіўся на рэформу, матывуючы гэта чыста ў французскім духу: прэзідэнцкая сямігодка — вельмі доўга і сумна, а пяць гадоў — гэта больш сучасна.

Францыя выглядае выключэннем на фоне іншых краін. Толькі ў перыяд з 1992 па 2006 год 26 прэзідэнтаў розных дзяржаў тым ці іншым чынам спрабавалі павялічыць тэрміны прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Пры гэтым кіраўнікі дзяржаў дзейнічалі двума спосабамі. У 14 дзяржавах (сярод іх Беларусь, Казахстан, Туркменістан, Узбекістан і Уганда) прэзідэнты проста адмянялі або перапісвалі канстытуцыйныя нормы, якія ўтрымлівалі абмежаванні. У 12 краінах — у тым ліку ў Кіргізіі, Намібіі і Перу — рэалізоўваўся сцэнар, які дазваляў дзеючым кіраўнікам заставацца ва ўладзе без унясення зменаў у Асноўны закон.

Дзякуючы прававым эксперыментам у былым СССР з'явіліся новыя аргументы, якія абгрунтоўваюць павелічэнне тэрміну паўнамоцтваў. А менавіта: «неабходнасць забеспячэння стабільнага і паступальнага развіцця краіны і пераемнасці дзяржаўнай палітыкі», «неабходнасць эканоміі бюджэтных сродкаў, з якіх фінансуюцца выбары», «працэдура ўступлення на пасаду, кадравыя перастаноўкі і ўкараненне новай праграмы ў чатырохгадовы тэрмін вымушаюць рабіць хуткія рэформы і дзеянні, якія проста не паспяваюць прымацца грамадствам і таму не працуюць», «немагчымасць для новага прэзідэнта паўнавартасна ўвайсці ў курс спраў менш, чым за два гады», і гэтак далей.

Такога кшталту аргументацыя, безумоўна, палітычна заангажаваная. Калі кіравацца падобнай логікай, то выбары трэба праводзіць ледзь не раз на 20 гадоў, што дазволіць сапраўды эфектыўна эканоміць на выбарчых працэдурах. Сусветная і постсавецкая практыка таксама сведчыць, што павелічэнне працягласці тэрміну прэзідэнта — закамуфляванае жаданне поўнай узурпацыі ўлады, якое, на жаль, яшчэ больш абвастраецца ў часы эканамічнага крызісу і росту геапалітычнай небяспекі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Роберт Мугабэ



Прэзідэнт Зімбабвэ, які нават не хавае дыктатарскай прыроды свайго рэжыму, рызыкнуў адрадзіць у краіне нацыянальныя грошы.

Нагадаем, што мясцовыя долары там перасталі друкаваць прыкладна з 2009 года, калі стала зразумелай бессэнсоўнасць падобнай практыкі. З улікам таго, што інфляцыя тады складала каля 200 мільёнаў працэнтаў на год, грошы адразу гублялі каштоўнасць. Вымярэннем кошту тавараў і паслуг былі амерыканскія долары і паўднёва-афрыканскія ранды. І вось нарэшце зімбабвійскі «зайчык» вярнуўся, праўда, хутчэй у выглядзе дзяржаўных бонаў. На мясцовым рынку з'явіліся манета коштам у адзін амерыканскі долар і банкнота, якая, паводле надпісу на ёй, каштуе два долары ЗША.

Рэакцыя насельніцтва аказалася самай адмоўнай. Па краіне пракаціліся дэманстрацыі пратэсту супраць новых грошай, а ўладальнікі прыватных крамаў абвясцілі ім байкот. Некаторыя маніфестацыі давялося разганяць з дапамогай паліцыі. Такую рэакцыю можна растлумачыць татальным недаверам насельніцтва да ўлады. Простыя людзі ўспрымаюць любыя ініцыятывы ўраду ў фінансавым сектары як сродак выманіць іх валютныя «заначкі». Адказ Мугабе на выступы суайчыннікаў быў папросту феерычным. Роберт заявіў, што будзе зноў балатавацца ў прэзідэнты, хаця на момант выбараў яму стукне ўжо 94 гады.

### Пётр Парашэнка



Украінская прэса прагназуе, што цяперашні ўкраінскі гарант можа паўтарыць лёс Леаніда Кучмы, які стаў ахвярай так званых «стужак Мельнічэнкі». Мельнічэнка — афіцэр аховы Кучмы — патаемна запісваў размовы ў кабінеце прэзідэнта, у тым ліку маналог з пагрозамі Кучмы на адрас журналіста Гангадзэ, які хутка быў забіты. Пасля таго, як Мельнічэнка апублікаваў змест стужак, выбухнуў мегаскандал, які ледзь не каштаваў Кучму яго пасады.

Цяпер назіраецца нейкае дэжавю. Былы партнёр Парашэнкі алігарх Аляксандр Анішчанка, які хаваецца ў Маскве, сцвярджае, што патаемна запісваў нарады ў прэзідэнта, якія былі прысвечаныя хабарам. У хуткім часе Анішчанка абяцае выкінуць першую партыю кампрамату, якая, на думку прэсы, безумоўна ўчыніць скандал, падобны на часы Кучмы. Аднак у параўнанні з Кучмам сітуацыя ў Парашэнкі горшая. Зноў жа, калі верыць Анішчанку і некаторым медыя, сродкі на хабары прэзідэнт браў з грошай, якія давалі Украіне заходнія фонды. Пра гэта, быццам, вядома і юрыдычнай службе ЗША, якая ўжо дапытала Анішчанку.

### Гвюдні Ёўханесан



Прэзідэнт Ісландыі прапанаваў мясцовай Пірацкай партыі прыступіць да працэсу фармавання ўрада. Гэта рашэнне стала следствам правалаў правых і левых партый Ісландыі стварыць кіруючую кааліцыю.

Пазачарговыя парламенцкія выбары прайшлі ў Ісландыі 29 кастрычніка, але ні адна з сямі партый не здолела набраць абсалютнай большасці галасоў. Права фармавання кааліцыі атрымалі пераможцы — кансерватыўная Партыя незалежнасці, але яны не здолелі знайсці кансенсус наконт шэрагу пытанняў: у тым ліку, што рабіць у адносінах да ЕС. Затым прэзідэнт перадаў эстафету Руху Левых — Зялёных, які заняў на выбарах другое месца. Іх спробы фармавання кааліцыі таксама пацярпелі паразу. Такім чынам, нечакана права на фармаванне кааліцыйнага ўрада перайшло да Пірацкай партыі, якая здолела заручыцца падтрымкай 14,5% выбаршчыкаў.

У выпадку фармавання «пірацкага» ўраду, нас чакаюць самыя незвычайныя навіны з Ісландыі. «Піраты» ішлі на выбары з праграмай, якая прадугледжвае ледзьве не змены ў Канстытуцыю. У выніку іх рэформаў краіна будзе кіравацца метадамі прамой дэмакратыі: большую частку як агульнанацыянальных, так і мясцовых пытанняў «піраты» хочуць выносіць на інтэрнэт-рэферэндумы адпаведнага ўзроўню. Акрамя таго, «піраты» — за ліквідацыю аўтарскага права ў інтэрнэце, дэкрымінлізацыю наркотыкаў і парнаграфіі, нацыяналізацыю рыбнага бізнесу.

# Грамадскі актывіст, які пляце кошыкі



Сяргей ЧЫГРЫН

**Ён пабудаваў дом, пасадзіў шмат дрэваў, выгадаваў дачку і сына, любіць плесці кошыкі, а яшчэ праводзіць у масы ідэі БХД.**

Івана Бядко я часта сустракаю на лецішчах. А іх у яго аж два: адно ў роднай вёсцы Шылавічы, якая знаходзіцца побач з Жыровічамі, а другое — у Слоніме на вуліцы Пушкіна. У Шылавічах засталася хата і зямля ад бацькоў, а ў Слоніме — невялічкая хатка — спадчына ад цёткі яго жонкі Ірыны.

Вось там на сотках і любіць у вольны час пакапацца спадар Іван. Ён апантаны зямлёй, кветкамі, дрэвамі, травой, птушкамі. Дый не любіць ён іх не можа. Бо, як кажа Іван Сямёнавіч, ён сам вясковы хлопец, таму жыццё і клопаты сялян — прыроду і зямлю, тое, як пахне ралля і як спяваюць птушкі, — ведае добра, бо ўсё перажыў з самага маленства.

### Маленства і юнацтва

Іван Бядко нарадзіўся 10 снежня ў беларускай сялянскай сям'і Сямёна Андрэевіча і Ганны Сцяпанаўны. Звычайныя вясковыя людзі, якія ўсё жыццё адпрацавалі на роднай зямлі. Пакідаў бацька родную вёску Шылавічы Слонімскага раёна толькі адзін раз, калі забралі яго на фронт. Дзякаваць Богу, вярнуўся з вайны з ордэнамі і медалямі.

Сям'я ў Сямёна і Ганны Бядко была вялікая — пяцёра дзяцей. Таму маленства было нялёгкім: даводзілася шмат працаваць, каб выжыць. Іван распавядае, што пасля школы і на канікулах працаваў у калгасе на палявых работах. Рана навучыўся баранаваць, праполваць і асыпаць бульбу, касіць траву, вазіць сена, запрагаць каня, нарыхтоўваць на зіму дровы. Але спачатку пасвіў кароў. Пакуль пас хатнюю жывёлу, вучыўся ў старэйшых хлопцаў плесці лазовыя кошыкі. Гэта захапленне не пакідае яго і зараз.

Яшчэ ў школе палюбіў мастацкую літаратуру, і кніг не выпускае з рук і да сённяшніх дзён.

У 1968 годзе Івана Бядко прызвалі ў Савецкую Армію. Службу праходзіў у групе савецкіх войск у Германіі. А калі пачаліся вядомыя падзеі ў Чэхаславакіі, адправілі вайскоўца-беларуса туды. «Але зброю супраць чэхаславацкага народу я не ўжываў, абышлося тады без нас», — прыгадвае Іван Сямёнавіч.

### Фельчар

Пасля арміі Іван Бядко скончыў Слонімскае медвучылішча па спецыяльнасці фельчар. Паступаў у Гродзенскі медінстытут, але не хапіла двух балаў, таму ў інстытут не прайшоў па конкурсе. Ён не адчайваўся — пачаў працаваць фельчарам. Спачатку ў Мастоўскім раёне, а потым вярнуўся на родную Слонімшчыну і ўладкаваўся фельчарам у Слонімскі медвыцвярэзнік. А з 1982 года перайшоў на працу ў наркалагічны кабінет Слонімскай цэнтральнай раённай бальніцы. Любіў сваю працу, нават прайшоў курсы навучання па метадыцы Г.А. Шычко аб пазбаўленні шкодных звычак. Праводзіў работу з пацыентамі аб пазбаўленні іх ад алкагальнай, наркатычнай і тытунёвай залежнасці. Працаваў там да 2009 года. Але аднойчы яго выклікаў галоўны ўрач бальніцы Юрый Пяцельскі і сказаў, што з ім больш не будуць працягваць кантракт. Але гэта здарылася пазней.

### Сябра БНФ

У 1989 годзе ў Слоніме мясцовы актывіст і паэт Рудольф Пастухоў зарэгістраваў у райвыканкаме Слонімскую арганізацыю БНФ. Яму дапамагалі настаўнік Мікалай Ракевіч і гісторык Ігар Падгарадзецкі. Праз пэўны час кіраўніком Слонімскай партыі БНФ быў абраны Мікалай Ракевіч.

І дзейнасць слонімскіх сяброў БНФ значна актывізавалася. Пачалі актыўна наладжвацца пікеты, мітынгі, сустрэчы сярод насельніцтва. Да партыі БНФ хутка далучыўся і Іван Бядко. А ў кастрычніку 1993 года сябры БНФ разам са святаром айцом Сергіем усталявалі ў цэнтры Слоніма вялікі крыж на месцы, дзе да вайны і пасля вайны стаяў праваслаўны сабор (у 1960-х гадах сцены сабора разбілі танкамі і цалкам знішчылі). У 1994 годзе старшынёй Слонімскай Рады БНФ аднагалосна быў абраны Іван Бядко. Пасля абрання яго кіраўніком на адной з сустрэч Іван Сямёнавіч сказаў: «Сябры, так жыць далей нельга. Нешта трэба мяняць у нашым жыцці, якое не паляпшаецца».



Іван Бядко за любімай працай

### Выбары

У 1994 годзе ў Беларусі адбываліся першыя дэмакратычныя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У выбарах удзельнічалі 6 кандыдатаў. Слонімскія сябры БНФ працавалі на карысць Зянона Пазьняка. Яны збіралі подпісы, вялі вялікую агітацыйную працу, ладзілі назіранне. А ў лютым 1994 года арганізавалі ў Слонімскім РДК сустрэчу з Зянонам Пазьняком. Людзей на сустрэчу прыйшло столькі, што вялікая зала РДК не змяшчала ўсіх ахвочых.

Такой сустрэчы раённы Дом культуры (цяпер Цэнтр культуры) у Слоніме не ведаў з дня яго пабудовы і да сённяшніх дзён. «У выніку фальсіфікацый у другі тур прэзідэнцкіх выбараў прайшлі Аляксандр Лукашэнка і Вячаслаў Кебіч», — прыгадвае Іван Сямёнавіч.

Але палітычная барацьба ў Слоніме працягвалася. У 1995 годзе праводзіліся выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Слонімскія сябры партыі БНФ вылучылі па гарадской акрузе кандыдатам у дэпутаты тэатральнага рэжысёра Мікалая Варвашэвіча, а па сельскай акрузе — пісьменніка і настаўніка Аляксея Якімовіча. Іван Бядко ўзначальваў штаб Мікалая Варвашэвіча. Усе сябры-партыйцы за двух кандыдатаў правялі вялікую працу сярод насельніцтва.

Іван Бядко прыгадвае: «З васьмі кандыдатур, як стала вядома з камісіі, у другі тур выходзілі Мікалай Варвашэвіч і Міхаіл Дмухоўскі. Але падчас чарговай фальсіфікацыі ў другі тур прайшлі праўладны кандыдат Міхаіл Дмухоўскі і загадчык гарадскога аддзела адукацыі Станіслаў Бубен. Перамог тады Дмухоўскі».

### Працы і «заахвочванні»

Упершыню ў 1995 годзе Іван Бядко паспрабаваў балатавацца ў Гродзенскі абласны Савет. Але марна — не прапусцілі. Ды грамадскі актывіст не спыніўся. Ён пайшоў у палітыку, разам са сваімі землякамі актыўна займаецца рознымі грамадскімі справамі. Некалі з Георгіем Маскаўчуком абаранілі ад вынішчэння лес у сваім мікраёне Слоніма.

Ён пачаў выдаваць разам з сябрамі па партыі газету «Змагар» (выйшла 6 нумароў), дзе ў кожным нумары публікаваў артыкулы на палітычныя тэмы. Выкрываў фальсіфікацыю выбараў у Палату прадстаўнікоў па Бальнічнаму ўчастку Слоніма. Прымаў удзел амаль ва ўсіх дэмакратычных мерапрыемствах не толькі ў маштабах раёна, але і рэспублікі.

19 снежня 2010 года Іван Бядко прымаў удзел у акцыі апазіцыі супраць фальсіфікацыі выбараў. Яго затрымалі. І 15 сутак ён адбыў на Акрэсціна. Калі я спытаў у Івана Сямёнавіча, што найцяжэй было пераносіць у няволі, ён адказаў: стаяць у «стаканах». «Стаканы» — гэта камеры, дзе змяшчаліся толькі два чалавекі, а нас туды заганялі па чатыры і трымалі паўтара сутак. Не давалі ні піць, ні хадзіць у прыбіральню, нічога не дазвалялі. Калі прасілі вады, ахоўнікі казалі, што ім самім яе не хапае», — распавядае актывіст.

Вярнуўшыся ў Слонім з Акрэсціна, ён шчыра прызнаўся, што трапіў у Мінск на плошчу, каб выканаць свой грамадзянскі абавязак, каб унесці асабісты ўклад у спыненне духоўнага і прававога Чарнобыля на Беларусі, які адбываецца ўжо шмат гадоў. «І я лічыў сваім абавязкам там прысутнічаць. І я свой абавязак выканаў», — сказаў Іван Бядко.

### Архіў позваў

У 2009 годзе Іван Бядко перайшоў у БХД. Сёння ён з'яўляецца каардынатарам партыі БХД у Слоніме. І працягвае праводзіць розныя сацыяльныя кампаніі. А за адну з іх, якая называлася «Найперш працоўныя месцы, а потым дэкрэт аб дармаедстве», з ім і не падпісалі працоўны кантракт.

Але грамадскі актывіст не падае духам, ён жыве і працуе. Праўда, па-ранейшаму шмат яму дастаецца ад мясцовых чыноўнікаў і міліцыі. У сваім хатнім архіве Іван Сямёнавіч захоўвае сотні газетных публікацый пра парушэнні правоў чалавека на Слонімшчыне, пра дзейнасць мясцовага грамадскага руху. Ёсць у яго архіве і розныя даведкі, фотаздымкі, запрашэнні і праграмкі з розных дэмакратычных форумаў, сустрэч, канферэнцый. Захоўвае ён і дзясяткі, а то і сотні позваў у міліцыю, суд, пракуратуру.

«Усё гэта для гісторыі спатрэбіцца. Час працуе на нас!» — упэўнена сцвярджае слонімец.

***

Сёння Іван Бядко не толькі праводзіць ідэі БХД у масы, каб пабудаваць грамадзянскую супольнасць, якая зможа адстойваць свае інтарэсы ды будзе дамагацца вырашаць свае праблемы. Іван Бядко, як усе беларусы, хоча жыць лепш — жыць не горш за паляка, літоўца, немца. Гэта жыццёвыя абставіны зрабілі яго палітычна-грамадскім актывістам у рэгіёне. А ён насамрэч — апалітычны чалавек, які пабудаваў дом, пасадзіў шмат дрэў, выгадаваў сына і дачку. Які любіць лецішчы і, вядома ж, плесці кошыкі. А потым іх дарыць сябрам і знаёмым. На памяць.



Слонімскія грамадскія актывісты з Анатолем Лябедзькам (злева направа): Іван Шэга, Віктар Марчык, Іван Бядко

**Фотаздымкі з архіва аўтара**







# Музей Максіма Багдановіча: вынікі аптымізацыі

Васіль КАРШЭНЬ

**Беларусь 9 снежня адзначае 125-гадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Не ўхіліцца ад адзначэння і музеям паэта. З чым яны сустрэнуць круглую дату пасля «аптымізацыі», якая адбылася два гады таму?**

У канцы 2013 і пачатку 2014 года мінская грамадскасць хвалявалася: што будзе з Літаратурным музеем Максіма Багдановіча? Праводзіліся пікеты, прэс-канферэнцыі, падпісваліся і распаўсюджваліся заявы і звароты. Сярод іншага выказваліся асцярогі, што будынак у Траецкім прадмесці можа быць адабраны ў музея, як гэта раней адбылося з будынкам Нацыянальнага гістарычнага музея (колішнім вайсковым шпіталем) па вуліцы Фрунзэ — яго перадалі следчаму камітэту. На шчасце, музей Багдановіча застаўся ў сваім будынку.

Але ў красавіку 2014 года ў выніку «аптымізацыі», праведзенай Міністэрствам культуры, ён перастаў існаваць як юрыдычная асоба і ператварыўся ў філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Пазбаўленне самастойнасці чакала і некаторыя іншыя музеі, напрыклад, музей Петруся Броўкі.

Да юбілею Максіма Багдановіча самы час падвесці вынік гэтага захаду на прыкладзе музея класіка: два з паловай гады павінны былі паказаць плён праведзенай рэарганізацыі.

Ці не галоўнай задачай «аптымізацыі» Мінкульт абвяшчаў падвышэнне заробкаў музейным работнікам за кошт скарачэння іх колькасці. Маўляў, скароцім бухгалтэрыю і гаспадарчых работнікаў, каб павялічыць аплату працы работнікаў навуковых.

У тым, што гэтая заява не адпавядала рэчаіснасці, супрацоўнікі музея пераканаліся ўжо ў красавіку 2014-га. Калі ў часы «незалежнасці» заробак старшага навуковага супрацоўніка быў прыкладна 3 мільёны беларускіх рублёў, то ў часы «філіяльнасці» ён стаў ледзь перасягаць 2 мільёны. Толькі цяпер, праз амаль тры гады і пасля абвальнай інфляцыі, заробак наблізіўся да 300 «новых» рублёў. Не варта і казаць, што аплата працы дырэктара асобнага музея адрозніваецца ад заробку загадчыка філіяла як мінімум у два разы.








Мінкульт пастуляваў, што загадчыкі філіялаў «будуць вызваленыя ад вырашэння пытанняў матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння». Атрымалася зусім наадварот. Калі раней у распараджэнні дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча былі гаспадарчыя супрацоўнікі, якія падпарадкоўваліся непасрэдна яму і якім можна было даручыць правесці тыя ці іншыя закупкі ці загадаць выдаць тое-сёе са склада, то цяпер усе гаспадарчыя службы знаходзяцца ў іншым будынку і загадчыку філіяла не падпарадкоўваюцца.

Час загадчыка філіяла сыходзіць на тое, каб дамовіцца з гэтымі «самастойнымі» службамі непасрэдна ці праз дырэктара музея. Больш за тое, у выніку «аптымізацыі» звольніліся бухгалтары і гаспадарчыя работнікі не толькі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча і іншых новаспечаных філіялаў, але і галаўнога музея гісторыі літаратуры. Некалькі месяцаў сышло толькі на перадачу матэрыяльных каштоўнасцяў, дакументацыі і ўваход у курс спраў.

Пра тое, як новыя гаспадарчыя службы працуюць, сведчыць хоць бы такі факт: наведвальнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча скардзяцца на адсутнасць у прыбіральні мыла і туалетнай паперы. За апошнія тры гады для музея не праводзілася закупак аргтэхнікі, хаця наяўныя кампутары састарэлі і псуюцца. З непасрэдна музейнымі закупкамі справа стаіць не лепей. Надзвычай зацягнулася правядзенне тэндараў на стварэнне мастацкага праекту новай пастаяннай экспазіцыі музея Багдановіча і на стварэнне ўласна экспазіцыі. Апісанне закупак, якія цягам двух гадоў адмяняліся або не адбываліся, можна і сёння знайсці на сайце Нацыянальнага цэнтру маркетынгу і кан'юнктуры цэн.

Падобная сітуацыя назіраецца і ў іншых структурах Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Увесну 2016 года навуковыя супрацоўнікі музея і яго філіялаў нават напісалі ліст у Мінкульт, у якім скардзіліся на сабатаж асветніцкай і навуковай працы з боку бухгалтэрыі і некаторых гаспадарчых работнікаў. Як сцвярджалі навукоўцы, бухгалтэрыя «не жадала» аплачваць выраб матэрыялаў для выстаў (з-за чаго яны зрываліся) і не вырашала іншыя пытанні.

Мінкульт, у сваю чаргу, не мае права змяняць бухгалтэрыю музея, гэта кампетэнцыя дырэктара. Затое Міністэрства культуры мае права змяніць дырэктара, чым урэшце справа і скончылася. Увосень крэсла, вызваленае Лідзіяй Макарэвіч, заняў Зміцер Яцкевіч. Толькі час пакажа, ці здолее новы кіраўнік наладзіць працу гаспадарчых службаў. Стварэнне ж экспазіцыі музея Багдановіча пачалося толькі пару месяцаў таму, і зараз, у юбілейныя дні, працягваецца.

Апраўдваючы «аптымізацыю», Мінкульт фантазіраваў: нібыта вызваленыя адміністрацыйныя памяшканні можна будзе «аддаць пад пашырэнне экспазіцыйных плошчаў». Відавочна, супрацоўнік міністэрства, які пісаў гэтыя радкі, кепска ведае будынак музея Багдановіча. У 1980-я гады ён перабудоўваўся спецыяльна для музея, і зараз толькі-толькі прайшоў праз капітальны рамонт. На час «аптымізацыі» рамонт ужо быў напалову зроблены, і яго праект не падлягаў пераробцы.

Экспазіцыйныя памяшканні музея канструкцыйна аддзеленыя ад адміністрацыйных. Каб далучыць да экспазіцыйных плошчаў хаця б адзін «адміністрацыйны» пакойчык, давялося б прабіваць новыя дзверы, зносіць сцены — адным словам, рабіць грунтоўную перапланіроўку. На што, зразумела, патрэбныя немалыя грошы і немалы час. Адкуль, цікава, планавалі ўзяць грошы міністэрскія чыноўнікі ў часы татальнай эканоміі?

З іншых рэальных вынікаў «аптымізацыі» можна назваць такі, што колішнія аддзелы ператварылі ў сектары (у складзе філіяла не можа быць аддзелаў). Адпаведна, заробкі загадчыкам аддзелаў, якія сталі загадчыкамі сектараў, зменшылі.

Пасля некалькіх выхадаў у афлайн (з-за неаплаты новай бухгалтэрыяй хостынгу) і вяртання ў сецiва (пасля аплаты) у Літаратурнага музея Максіма Багдановіча канчаткова знік сайт bagdanovich.by. Засталася толькі куцая старонка на сайце Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і старонка на фэйсбуку.

Ледзь не «аптымізавалі» канчаткова ў мінулым годзе і музей «Беларуская хатка». Колішні філіял музея Максіма Багдановіча цяпер з'яўляецца філіялам таго ж Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Здаецца, што толькі скандал у СМІ спыніў перадачу «Беларускай хаткі» ад музея да Універсітэта культуры і мастацтваў. Рамонт «хаткі» ідзе ўжо восем гадоў.

Яшчэ адным вынікам «аптымізацыі» можна назваць паспяховую кар'еру былога намесніка начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці міністэрства культуры Дзмітрыя Шляхціна. У час працы на гэтай пасадзе Шляхцін актыўна распісваў публіцы ўяўныя перавагі «аптымізацыі». Неўзабаве ён апынуўся на працы ў Адміністрацыі прэзідэнта, а нядаўна быў прызначаны дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Як бачым, аргументы Міністэрства культуры за «аптымізацыю» праверкі часам не вытрымалі. Адзіная рэальная задача «аптымізацыі» — скарачэнне бюджэтных выдаткаў — была дасягнута. Але якім коштам?

# Свет паэзіі Алеся Каско

## Да 65-годдзя паэта

Лявон ЦЕЛЕШ

**З Алесем Каско мне ўпершыню давялося сустрэцца на радзіме паэта, у час святкавання Дня беларускага пісьменства ў Ганцавічах. Пазнаёміў мяне з Алесем таксама ўраджэнец Ганцаўшчыны, сябра Каско, паэт Віктар Гардзей.**




Другая наша сустрэча адбылася ў тым жа 2011 годзе, у Палацы мастацтва, на 16-м з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў. Менавіта з таго часу я сачу за творчасцю гэтага таленавітага майстра слова.

Нарадзіўся Алесь Каско 10 снежня 1951 года ў вёсцы Чудзін, у звычайнай працоўнай сялянскай сям'і. З гэтай старадаўняй палескай вёскай звязаны жыццёвы і творчы шлях беларускага этнографа і фальклярыста Аляксандра Сержпутоўскага, тут жылі цудоўныя казачнікі Дудар, Даніла Кулеш, Рэдкі. Магічная, палеская першабытная прырода, край, авеяны казкамі і паданнямі, паспрыялі таму, што Алесь Каско рана пачаў пісаць вершы. Яго першы верш «Пралескі» з'явіўся ў ганцавіцкай раёнцы ў 1968 годзе.

Бацька паэта, Кастусь Рыгоравіч, майстар на ўсе рукі, і маці, Аксіння, майстрыха-вышывальшчыца і ткачыха, падтрымлівалі паэтычнае натхненне свайго сына. На станаўленне Алеся Каско як паэта вялікае ўздзеянне зрабіла вучоба на філалагічным факультэце Брэсцкага педынстытута, дзе ён пазнаёміўся і пасябраваў са студэнтамі-паэтамі Алесем Разанавым, Міколам Пракаповічам, Васілём Жуковічам.

Пасля заканчэння педынстытута малады настаўнік працаваў у школах Берасцейшчыны, у тым ліку і ў роднай школе ў вёсцы Чудзін, затым быў карэспандэнтам у Жабінкаўскай раённай газеце «Сельская праўда», на абласным тэлебачанні, а з 1991 года ўзначальваў Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў. Некаторы час ён працаваў і ў газеце «Звязда».

Зараз ён на адпачынку, жыве ў Жабінцы. Жонка, Людміла Канстанцінаўна, працуе адказным сакратаром жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда». Творчы шлях паэта Алеся Каско адзначаны выхадам у свет шэрагу цікавых паэтычных зборнікаў: «Вестка», «Скразная лінія», «Набліжэнне», «45», «Трохкроп'е», «Свой камень», «Нічога больш», «Прыадхінуты небасхіл». За зборнік паэзіі «Час прысутнасці» (1994) паэт быў узнагароджаны Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова.

На маёй кніжнай паліцы, побач з раней выдадзенай кнігай «Нічога больш», стаіць паэтычны зборнік Алеся Каско «Межавыя знакі», які нядаўна выйшаў у свет. У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы, напісаныя на працягу мінулых дзесяцігоддзяў, а таксама новыя творы паэта. Акрамя вершаў, у «Межавых знаках» прысутнічаюць цікавыя навелы і мініяцюры, а таксама «Чудзінскі дзённік», з якога можна шмат цікавага даведацца пра жыццё паэта і пра яго родных.

Што хвалюе аўтара ў гэтым і ў іншых зборніках? Найперш, лёс нашай краіны, непакой за будучыню Беларусі, за беларускую мову, зберажэння прыроды. Як сапраўдны сем'янін, Алесь Каско ганарыцца сваім радаводам, шануе і паважае родных і блізкіх. Шэраг вершаў ён прысвяціў выдатным беларускім паэтам. Верш «Паэт — рака» ён прысвяціў Народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу, у якім і імя паэта, і яго паэзію ён атаясамлівае з магутнай ракой Ніл, што нясе жыццё:

*«Не выветрыцца дух Айчыны,*
*не сыдзе грунт яе на пыл:*
*нібы егіпецкай пустыні,*
*жывільны дар нясе ёй Ніл».*

Уражвае верш паэта «Не там», прысвечаны Максіму Багдановічу, 125-годдзе якога сёлета, 9 снежня, будуць адзначаць прагрэсіўныя колы Беларусі. Гэты верш ён прысвяціў таксама і іншым беларускім паэтам, месцы пахавання якіх дакладна яшчэ не ўстаноўлены.

Глыбока кранае душу верш паэта «Саракавіны», які ён прысвяціў сваёй маці:

*«Так зелена, весне,*
*што вішня сама*
*ступіла да весніц.*
*А мамы няма.*
*У хаце прыбрана,*
*у хаце гурма:*
*людзей, нібы ў храме,*
*а мамы — няма».*

Алесь Каско ганарыцца сваім вытокам, цудоўнай палескай зямлёй, дзе ён нарадзіўся і дзе прайшлі яго дзяцінства і юнацтва.

Адмоўнае стаўленне да моўнага рэферэндуму, ад якога беларуская мова апынулася ў заняпадзе, паэт выказаў у вершы «Напярэдадні рэферэндуму 15 мая 1995 года» наступнымі радкамі:

*«Вось — гвалтоўны гісторыі ход:*
*пагарджаны вякамі народ,*
*што душою аглух і аслеп,*
*плюне ў мову, і ў сцяг свой, і ў герб.*
*І тады, як адвернецца свет,*
*не апомніцеся, прэзідэнт?*
*— Нет!»*

Паэта як патрыёта Беларусі непакоіць лёс Радзімы, і пагрозу незалежнасці Беларусі ён бачыць ад усходняга суседа — Расіі. Гэтая тэма прагучала ў вершы «Усходнія суседзі»:

*«Яны выйшлі з варагаў,*
*перамяшаліся з чынгісханамі,*
*спарадзілі жахлівых, ермакоў, пугачовых.*
*У ботах пятроўскіх,*
*папыхваючы каўказскаю піпкаю,*
*прайшлі паўшара Зямнога.*
*Што край мой на іхняй карце?*
*Абшару малюсенькі ўскраек.*
*Яшчэ не ўтаптаны ў дарогу хлеба акраец».*

Прыцягальная ў паэзіі паэта і лірыка. Каханню прысвечаныя такія яго вершы, як «Рэдкі настрой», «Яна і ён», «Дзве зары».

10 снежня Алесю Каско споўніцца толькі 65 гадоў, а гэта для творцы, паэта, пара залатой восені. І хочацца спадзявацца, што творчы лёс і надалей не адвернецца ад паэта, і ён парадуе чытачоў сваімі новымі творамі. Добрага здароўя табе, паважаны Алесь Канстанцінавіч, папутнага ветру ў тваё ветразі!




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1201

Падпісана да друку 09.12.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.